*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*



# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 12 кастрычніка 1990 г. № 41 (3555) ● Цана 10 кап.



## У НУМАРЫ:

**САЛІГОРСКІ СІНДРОМ**
Чаго патрабуюць шахцёры!
4, 13

***БАЦЬКАЎШЧЫНА КЛІЧА!***
Выступленне В. Быкава на ўстаноўчай канферэнцыі Згуртавання беларусаў свету
5

*Вершы*
С. МАКАЛЯ, Л. РУБЛЕЎСКАЙ
7, 12

**МІРАЖ**
Дыялогі з Актрысай
8—9

**«КРУМКАЧЫ» НА КАБЫЛЯЦКАЙ ГАРЫ**
Гавораць сведкі сталінскага генацыду
13, 14—15


# КАБ ЗАПРАЦАВАЎ ЗАКОН

### Думка чытача

У нашым аб'яднанні Белбуднавука Дзяржбуда БССР група БНФ паспрабавала пачаць працу па ўвядзенню ў справаводства беларускай мовы. Напісалі службовую запіску на імя кіраўніцтва, у якой пералічылі самыя неабходныя мерапрыемствы. Адказу на яе, на жаль, так і не дачакаліся; як бы нічога і не было.

Калі ж я з падобнай запіскай звярнуўся ў Дзяржбуд БССР, то атрымаў ад намесніка старшыні Дзяржбуда Ластачкіна В. Г. наступны адказ: «...что касается издания документов только на белорусском языке, то претворение в жизнь этого предложения возможно только после принятия Верховным Советом БССР соответствующего закона». Вось так. Быццам і не было закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы!

Такая пазіцыя адказнай асобы наводзіць на думку, што гэты закон, як і мноства іншых добрых законаў, выкананы ў жыцці не будзе. Бачу ў гэтым дзве прычыны. Першая — занадта расцягнутыя тэрміны яго ўвядзення, другая — яго добраахвотны характар. Што датычыцца першага, то вытворцы закона, відаць, забылі, што Беларусь знаходзіцца не на востраве, а ў самым цэнтры Еўропы, дзе на яе ўплываюць вельмі моцныя плыні — руская і польская. У цяперашні час, калі змяняецца ўвесь лад эканамічнага жыцця, г. зн. жыццё як бы разбураецца, сумесна з новымі эканамічнымі адносінамі ўплыў гэтых культур павялічваецца. Падзеі, што адбываюцца сярод беларусаў-католікаў (якія апісвае А. Сідарэвіч) і сярод беларускіх дзелавых людзей (маю на ўвазе пашырэнне міжнародных сувязей на базе рускай мовы), паказваюць, што марудзіць з адраджэннем беларускай духоўнасці (мовы) ніяк нельга. Што датычыцца добраахвотнасці ў выбары мовы зносін самім народам, то рабіць на яе стаўку — гэта вялікая наіўнасць. Толькі нацыянальна свядомыя інтэлігенты могуць пайсці на ахвяры дзеля адраджэння мовы, асноўная ж маса беларусаў (як і любой іншай нацыі пры такой ступені асіміляцыі) на такія ахвяры не пойдзе. Жыццё народа заўсёды, і тым больш у наш час, вельмі напружанае. Ахвяраваць ён нічым не будзе. Зразумець жа, што пераход на родную мову ёсць канец яго духоўнага (а таксама і фізічнага) рабства, большасць народа не можа, як яго ні агітуй. Народ адчувае сябе нацыяй толькі ў час вайны, калі духоўнае і фізічнае заняволенне адбываюцца рэзка і сумесна. Ідэолагі добраахвотнага выбару памылкова лічаць, што прастора для ўспрымання культур у чалавека нічым не абмежавана, як гэта было ў часы энцыклапедыстаў і нават у XIX стагоддзі, і што беларуская культура можа ўвайсці ў жыццё, не пацясніўшы іншыя культуры, напрыклад, рускую. **У канцы XX стагоддзя свабодных ніш для новых культур няма.**

Філосафы кажуць, што паміж пагардай і павагай не можа не ляжаць паласа змагання і нянавісці. Да гэтага часу беларускай мовай пагарджалі ўсе, у тым ліку і самі беларусы. Зараз, калі мы хочам, каб яе паважалі, трэба набрацца смеласці і не ўхіляцца ад змагання, адкінуўшы прынцып добраахвотнасці як фальшывы. Усе прыгнечаныя народы праходзілі гэты этап на сваім шляху да свабоды. Вось, напрыклад, як пачынае сваю кнігу «Проклятьем заклеймённые» вядучы ідэолаг трэцяга свету цёмнаскуры філосаф Ф. Фанон: «Якія назвы ні выкарыстоўваць, якія новыя формулы ні ўводзіць — нацыянальнае вызваленне, нацыянальнае адраджэнне, вяртанне народу ягонай спадчыны, ягонай свядомасці — дэкаланізацыя заўсёды носіць гвалтоўны характар». Толькі, вядома, пад гвалтам ён не разумее фізічны гвалт.

Дзеля таго, каб беларускае адраджэнне адбылося, лічу, што тэрмінова трэба скараціць паток інфармацыі на рускай мове. Прапаную наступнае.

(Працяг на стар. 2).



Своеасаблівай дамінантай святкавання 70-гадовага юбілею Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы мае быць пастаноўка «Тутэйшых» — знакамітай і невядомай п'есы песняра. Прэм'ера прызначана на 17 кастрычніка. А пакуль — «цішыня, ідзе рэпетыцыя»

Фота Ул. КРУКА

# НА РЫНАК—СВАІМ ШЛЯХАМ?

## 9 кастрычніка адкрылася нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР XII склікання

Адкрываючы сесію, Старшыня Вярхоўнага Савета М. Дземянцей так вызначыў яе асноўную задачу: у гэтыя дні дэпутатам трэба будзе вырашыць самае важнае сёння пытанне — як вывесці эканоміку рэспублікі з таго цяжкага становішча, у якім яна апынулася. Неабходна знайсці самыя кароткія шляхі да стабілізацыі і прадухілення далейшага спаўзання да заняпаду, а затым і да паступовага аздараўлення і ўздыму. Прычым, як было асабліва падкрэслена, сфера гэтых пошукаў не павінна выходзіць за рамкі прынятай Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі.

**М. Дземянцей праінфармаваў дэпутатаў і ўсіх жыхароў рэспублікі, што за перыяд, які мінуў пасля заканчэння першай сесіі, выбраны на ёй Прэзідыум Вярхоўнага Савета правёў падрыхтоўчую работу, звязаную з вырашэннем гэтай праблемы. На яго пасяджэннях абмяркоўваліся меры, якія прапануе ўрад рэспублікі для стабілізацыі сацыяльна-эканамічнага становішча. Разглядаўся таксама прыкладны пералік заканадаўчых актаў, неабходных для дасягнення гэтай мэты.**

**У тым жа напрамку працавалі і пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе праводзілася грунтоўная экспертыза практычна ўсіх нарматыўных дакументаў, прапануемых рэспубліканскім урадам. Працягвалася работа над такімі важнымі дакументамі, як праекты новай Канстытуцыі рэспублікі, Саюзнага дагавору, іншых заканадаўчых актаў. Беларускія дэпутаты ўваходзілі ў склад групы вучоных і спецыялістаў пад кіраўніцтвам акадэміка Шаталіна, якая распрацоўвала адну з праграм пераходу да рынку. Разам з прадстаўнікамі рэспубліканскага ўрада ўдзельнічалі яны і ў абмеркаванні праблем пераходу да рыначнай эканомікі і мер па стабілізацыі народнай гаспадаркі краіны на сумесным пасяджэнні Прэзідэнцкага савета і Савета федэрацыі, якое адбылося ў жніўні.**

**Жыхары Беларусі, падкрэсліў у заключэнне Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, чакаюць ад нас мудрых, прадуктыўных рашэнняў, якія ў самы бліжэйшы час змогуць спыніць негатыўныя працэсы, што адбываюцца ў грамадстве, і прынесці рэальна адчувальнае паляпшэнне жыцця нашаму народу. І мы павінны, дакладней проста абавязаны, прыняць такія рашэнні на гэтай сесіі.**

Даклад аб праграме эканамічнай рэформы ў Беларускай ССР зрабіў Старшыня Савета Міністраў рэспублікі В. Кебіч. Да работы над праектам праграмы, сказаў прэм'ер-міністр, прыцягнуты буйныя навуковыя сілы, высокакваліфікаваныя спецыялісты народнай гаспадаркі. Ён неаднаразова разглядаўся ва ўрадзе з удзелам выканкомаў абласных Саветаў і Мінскага гарадского Савета, кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў.

Распрацоўваючы нашу праграму, мы зыходзілі з таго, што на развалінах цяперашняга Саюза павінен быць створаны эканамічны саюз суверэнных дзяржаў, які стаў бы аб'ядноўваючым крытэрыем і асновай стварэння агульнасаюзнага рынку.

Праграма мае стратэгічны характар. Тактыка яе рэалізацыі, калі яна будзе прынята, можа ўдакладняцца, узбагачацца і карэкціравацца з улікам таго вопыту, які, безумоўна, у нас з'явіцца.

Пераход да рынку — справа надзвычай складаная і хваравітая. Але хіба можна прапанаваць такую праграму, якая наогул дазволіць пазбегнуць цяжкасцей? Напэўна, не.

Думаецца, людзі зразумеюць і прымуць нават не самыя папулярныя меры, калі паверацъ, што гэтыя меры дадуць выхад з крызісу. Іменна гэта мы і павінны ўлічваць пры разглядзе праграмы.

Урад глыбока перакананы, што пераход да рынку можна ажыццявіць толькі пры стабілізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі ў рэспубліцы. Непрадузяты аналіз адназначна гаворыць аб тым, што адзіна магчымая сёння палітыка — гэта палітыка грамадзянскага міру і згоды, супрацоўніцтва ўсіх дэмакратычных сіл у імя вышэйшай мэты — дабрабыту беларускага народа.

Абмеркаванне прадстаўленай урадам праграмы працягваецца ў пастаянных дэпутацкіх камісіях.

**Паводле матэрыялаў БЕЛТА.**

●

**А за сценамі Дома ўрада, на плошчы Леніна, народныя дэпутаты БССР ад фракцыі Беларускага народнага фронту З. Пазняк, С. Навумчык, В. Голубеў і інш. сустракаюцца з мінчукамі. БНФ прапаноўвае найперш прыняць пакет законаў, якія б забяспечвалі суверэнітэт рэспублікі — закон аб грамадзянстве, аб уласнасці, аб зямлі і г. д., а потым ужо думаць аб пераходзе да рынку, бо інакш Беларусь зноў будзе выпрабавальным полем для палітычных авантур і эканамічных эксперыментаў Цэнтра.**

**На лозунгах, з якімі стаяць пікетчыкі каля Дома ўрада, — патрабаванні дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 года, як страціўшага сілу пасля прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі; патрабаванні вяртання дадому беларускіх хлопцаў з «гарачых кропак» краіны; патрабаванні роспуску КПСС і нацыяналізацыі яе маёмасці...**

**Наш кар.**

# КАБ ЗАПРАЦАВАЎ ЗАКОН

(Пачатак на стар. 1).

Кінафільмы ўсіх краін, за выключэннем Расіі і Украіны, дубліраваць на беларускую мову. Накіраваць на працу па дубляжу ўсіх супрацоўнікаў «Беларусьфільма». Усё роўна па многіх прычынах у Беларусі нацыянальнага кіно не адбылося. Амаль уся вытворчасць гэтага «філіяла «Масфільма» носіць адбітак фальшу.

Абмежаваць альбо спыніць часова друк у Беларусі і завоз з Расіі твораў рускай літаратуры. Запасаў яе ў нас хопіць на некалькі дзесяцігоддзяў. Тым больш, што не хапае паперы, тым больш, што пераважная большасць рускіх пісьменнікаў адмоўна альбо абыякава ставілася да беларушчыны.

Звесці да мінімуму паказ па Беларускім тэлебачанні перадач не на беларускай мове.

Увесці на тэлебачанні час польскага, літоўскага і ўкраінскага тэлебачання.

**Пераважную большасць перыядычнага друку ў Беларусі з наступнага года зрабіць беларускамоўнымі.** Пратэсты чытачоў, якія быццам не могуць чытаць па-беларуску, **кваліфікаваць як правакацыю,** паколькі для авалодвання чытаннем друку на беларускай мове дастаткова некалькіх тыдняў.

Стварыць льготныя ўмовы для друку мастацкай і навукова-тэхнічнай літаратуры на беларускай мове. Маю на ўвазе выдзяленне паперы, скарачэнне тэрмінаў друку, памяншэнне пералікаў гандлю за распаўсюджванне і г.д.

Такія, на мой погляд, неадкладныя мерапрыемствы па ажыццяўленню закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Пакуль жа, як паказваюць падзеі, прынцып добраахвотнасці паспяхова ператвараецца ў прынцып добраахвотнага самагубства.

**П. БІЧ,**
**кандыдат тэхнічных навук.**

г. Мінск.

**«ЛіМ» неаднойчы звяртаўся да такіх надзённых пытанняў, як умацаванне суверэнітэту і эканамічнай самастойнасці Беларусі, пераходу яе на рыначныя адносіны, заключэнне Саюзнага дагавору і г. д. («Пра рынак, мараль і яшчэ пра сёе-тое», 13 ліпеня 1990 г.; «Жыць у сваім доме», 14 верасня 1990 г.; «Цяжкі шлях да рынку», 5 кастрычніка 1990 г.). Аўтар артыкула «Саюз дзяржаў» член-карэспандэнт АН БССР В. Шабайлаў выкладае свой пункт гледжання на прававы аспект маючага адбыцца падпісання Саюзнага дагавору.**

# Саюз дзяржаў

Са спадзяваннем на радыкальную перабудову дзяржаўнага ўладкавання Саюза ССР была ўспрынята ідэя абнаўлення Савецкай федэрацыі. На жаль, канкрэтнага ўвасаблення яна так і не атрымала, усё абмежавалася прыняццем далёкіх ад дасканаласці прававых актаў. Законы Саюза ССР «Аб размежаванні паўнамоцтваў паміж Саюзам ССР і суб'ектамі федэрацыі» і «Аб асновах эканамічных адносін Саюза ССР, саюзных і аўтаномных рэспублік», па сутнасці, не наблізілі нас да рэвалюцыйнага абнаўлення Савецкай федэрацыі, бо на іх ляжыць пячатка старых стэрэатыпаў. Саюз, фактычна, канцэнтруе і пакідае за сабой неабмежавана шырокі аб'ём паўнамоцтваў, быццам з «ласкі» пашырыўшы некаторыя правы саюзных рэспублік. У той час як логіка станаўлення і развіцця федэрацыі зыходзіць з адваротнага: менавіта саюзныя рэспублікі перадаюць частку сваіх паўнамоцтваў у распараджэнне Саюза.

Марудлівасць цэнтральных улад, адсутнасць у іх дакладных праграм дзеянняў ва ўсіх сферах жыцця, глыбокія міжнацыянальныя супярэчнасці ў краіне нарадзілі нявер'е ў тое, што краіну можна вывесці з глыбокага крызісу нават у рамках абноўленай федэрацыі. Якое з гэтага выйсце? Стварэнне Саюза (канфедэрацыі, садружнасці) суверэнных дзяржаў.

Першаступеннае значэнне мае прававое замацаванне ўзаемасувязей паміж імі. Саюзныя дзяржавы, зыходзячы з волі іх народа, павінны мець вяршэнства ў вырашэнні пытанняў дзяржаўнага, эканамічнага, сацыяльнага і культурнага жыцця на сваёй тэрыторыі і абараняць свае інтарэсы на міжнароднай арэне.

Вядома, суверэнітэт нельга абсалютызаваць. Рэспублікі (дзяржавы), уступаючы ў Саюз (садружнасць, канфедэрацыю), непазбежна будуць вымушаны самі абмяжоўваць свае правы. Але важна вызначыць аптымальныя межы іх кампетэнцыі і адпаведна паўнамоцтвы, якія перадаюцца Саюзу.

У гэтай сувязі неабходна неадкладна заключыць новы Саюзны дагавор, які павінен стаць не толькі юрыдычным, а і палітычным дакументам. У ім трэба закласці асновы ўзаемаадносін саюзных дзяржаў, задачы і функцыі Саюза. Падрабязна ўзаемасувязі гэтых дзяржаў маглі б вызначацца ў дадатках да Саюзнага дагавору адносна асобных сфер дзейнасці: эканомікі і фінансаў, правоў і свабод грамадзян, сацыяльна-культурнай дзейнасці, экалогіі, знешняй і ўнутранай бяспекі, асноў дзяржаўнага ладу і структуры органаў улады і кіравання Саюза і г. д.

Асаблівую вастрыню набываюць пытанні кампетэнцыі Саюза ў сферы эканомікі. Суверэнітэт рэспублікі павінен быць звязаны з правам народаў, што жывуць на дадзенай тэрыторыі, валодаць зямлёй і яе нетрамі.

Праўда, Беларусь бедная на энергетычныя, сыравінныя рэсурсы, якія вымушана будзе купляць у іншых рэспублік або арандаваць у іх прадпрыемствы, шахты і інш. Гэта з'яўляецца вызначальным фактарам у развіцці міжрэспубліканскіх (міждзяржаўных) адносін, усё павінна грунтавацца на пачатках узаемнай выгады.

Важна адназначна вырашыць пытанне аб праве ўласнасці на прамысловыя прадпрыемствы, народнагаспадарчыя комплексы. Большасць з іх падпарадкавана Саюзу. Мяркуючы па Указе Прэзідэнта Саюза ССР «Аб утварэнні фонду дзяржаўнай маёмасці Саюза ССР», бюракратычны цэнтр не збіраецца здаваць свае пазіцыі, па-ранейшаму хоча замацаваць за сабой шырокі аб'ём маёмасці, усім распараджацца і ні за што не адказваць. Бо перш чым устанавіць такі фонд, неабходна было б вызначыць аб'екты ўласнасці Саюза.

Для развіцця эканомікі рэспублікі як цэласнай структуры неабходна, каб у ёй былі сканцэнтраваны ўсе прамысловыя прадпрыемствы і народнагаспадарчыя комплексы. Саюзныя рэспублікі як суверэнныя дзяржавы маюць права вызначаць накірункі, прыярытэты і маштабы развіцця вытворчых сіл, вытворчых структур, іх размяшчэнне, вызначаць меры па павышэнні эфектыўнасці іх работы. У прыватнасці, Беларусь павінна ажыццяўляць пераарыентацыю на навукаёмістую вытворчасць, на ўкараненне эфектыўных тэхналагічных працэсаў, якія зберагаюць энергію, сыравіну, матэрыялы і інш. У цэлым толькі рэспубліка павінна валодаць выключным правам вырашаць, якія аб'екты маёмасць можа быць перададзена ёю Саюзу. Да іх могуць быць аднесены, у прыватнасці, адзіная энергетычная сістэма, магістральны трубаправодны транспарт, агульнасаюзная сістэма сувязі і інфармацыі і г. д. Некаторыя прадпрыемствы і народнагаспадарчыя комплексы ў прамысловасці на падставе дагавору Саюза і рэспублікі могуць складаць іх сумесную ўласнасць.

Патрабуюць кардынальнага перагляду бюджэтна-фінансавыя адносіны Саюза і рэспублік. Важна дакладна вызначыць крыніцы даходаў агульнасаюзнага бюджэту. Нельга адвольна ўстанаўліваць аб'ём падаткаў, збораў і плацяжоў, якія паступаюць у саюзны бюджэт ад рэспублік. Яны павінны праводзіць адлічэнні ў бюджэт Саюза ў цвёрда фіксіраванай суме з дакладным вызначэннем выдаткаў на абарону, навуку і г. д.

Вядома, у маштабе Саюза павінна праводзіцца адзіная фінансава-крэдытная палітыка. Першаступеннае значэнне мае перабудова крэдытна-фінансавай сістэмы. Перш за ўсё, належыць спыніць друкаванне грошай, не забяспечаных таварамі.

## *У пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета БССР*

# ПРЫЗНАНА НЕАБХОДНЫМ...

**Камісія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны 18 верасня і 1 кастрычніка г.г. правяла пасяджэнні, на якіх пры ўдзеле спецыялістаў і намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай абмеркаваны шэраг пытанняў развіцця культуры, асветы, дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі і кнігадрукавання ў рэспубліцы.**

Прызнана неабходным стварыць пры Вярхоўным Савеце БССР Інспекцыю па ахове помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, прадугледзеўшы бюджэтныя асігнаванні на яе дзейнасць у 1991 г. Паводле рашэння камісіі, штатныя адзінкі інспектараў па ахове помнікаў, якія цяпер ёсць у сістэме Міністэрства культуры БССР, увойдуць у склад згаданай падзведамаснай інспекцыі. Гэта рашэнне было прынята пасля дэталёвага аналізу дзейнасці цяпер існуючых структур па ахове і рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Так, напрыклад, не задавальняе работа па рэстаўрацыі ў 1990 г. сядзібы Агінскага ў Залессі, Крэўскага замка, Барысаглебскай царквы ў Навагрудку і іншых аб'ектаў. Сціплыя сродкі, адпушчаныя з бюджэту на рэстаўрацыю, у большасці выпадкаў не асвойваюцца. Скажам, са 150 тысяч рублёў, выдзеленых у 1990 г. на рэстаўрацыю Кармяліцкага і Езуіцкага касцёлаў у Мсціслаўі, асвоена толькі 7 тысяч, і ў значнай ступені па віне Магілёўскіх рэстаўрацыйных майстэрань.

На пасяджэнні камісіі 1 кастрычніка г. г. выступілі народныя дэпутаты БССР Л. Баршчэўскі, Л. Дзейка, Л. Зданевіч, Г. Папоў і інш., а таксама дырэктар Палаца культуры тонкасуконнага камбіната (г. Мінск) Ю. Куваеў.

Камісія дала адмоўную ацэнку прадстаўленаму Саветам Міністраў БССР праекту пераходу рэспублікі да рыначнай эканомікі ў раздзеле, прысвечаным развіццю культуры і адукацыі. Прызнана неабходным запатрабаваць ад урада выканання праграмных палажэнняў, выкладзеных В. Кебічам пры яго выбранні на пасаду Старшыні Савета Міністраў, у якіх было ясна сфармулявана, што бюджэтныя асігнаванні на адукацыю ў 1991 г. узрастуць па фактычных цэнах у паўтара раза, а на культуру — падымуцца ў бліжэйшай перспектыве да 2,5—3 працэнтаў ад нацыянальнага даходу. Ва ўсім свеце культура, мастацтва, літаратура, адукацыя атрымліваюць важкія дзяржаўныя датацыі. Гэтыя сферы дзейнасці, як правіла, не абкладаюцца падаткамі, таму ўвядзенне, згодна саюзнаму заканадаўству, падаткаў у памеры 35 працэнтаў прыбыткаў ад камерцыйных відаў дзейнасці ў сферы культуры, а таксама і 37 працэнтаў аплаты ў фонд дзяржстраху, Камісія лічыць сур'ёзнай памылкай, якая павінна быць выпраўлена пры стварэнні рэспубліканскага закона аб падаткаабкладанні.

Шэраг народных дэпутатаў БССР выказаліся ў карысць стварэння ў рэспубліцы Фонду беларускай асветы і культуры, на які могуць рабіць адлічэнні прадпрыемствы, гаспадаркі, кааператывы і г. д. і якія, як гэта мае месца ў сусветнай практыцы, выплачваюць дзяржаве зменшаны — адпаведна працэнтам адлічэнняў у фонд —

**Міхась ЗАМСКІ,**
спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа»

# Салігорскі сіндром

**— Вы слухалі сёння раніцой мінскае радыё?**
**— Не, а што па ім гаварылі?**
**— У Салігорску восьвось пачнецца забастоўка. Так што і соль хутка знікне з магазінаў.**
**— Чакайце, хіба ў Салігорску здабываюць сталовую соль?**
**— А якую?**
**— Ды калійную, на ўгнаенні.**
**— Дальбог, не ведала...**

**(З размовы суседак па пад'ездзе.)**

АДРАЗУ ж хачу папярэдзіць чытача: не будзе ў маім аповядзе выразаў «соль зямлі», «падземныя скарбы», «эліксір урадлівасці», «людзі высокага гарту», «Салігорск — горад будучыні» і да т. п. з арсенала ідэалагічнага забеспячэння шахцёрскай працы. Будзе іншае...

Шахцёры... У дзяцінстве чуў ад бацькі, дарэчы, старога партыйца, песню, вельмі папулярную, па яго словах, у канцы 20-ых гадоў. Як ні дзіўна, але памяць захавала і яе мелодыю, і змест: «Он был шахтер, простой рабочий, служил в Донецких рудниках, и день за днём, с утра до ночи, долбил пласты угрюмых шахт. Был одинок, вставал чуть свет, работал долгих двадцать лет»... І прыпеў: «Тогда многое видала, многое слыхала, многое узнала шахта номер три»... У той песні апавядалася яшчэ, як у Кастрычніку «взметнулся над шахтой красный флаг», пра тое, як белагвардзейцы схапілі шахцёра-камуніста «и повели его к реке», дзе і расстралялі. Заканчвалася песня так: «Уж десять лет Советской власти, заводы крепнут с каждым днём, шахтера кровь скрепила части железной памяти о нем».

Харошая песня, ці не так? Шкада, што не гучыць яна сёння, як сведчанне «эстафеты пакаленняў», «рэвалюцыйных традыцый», пра якія, не стамляючыся, любяць гаварыць нашы ідэалагічныя прапаведнікі. Дык мо сапраўды заспяваем? «Ужо семдзесят год Савецкай улады, заводы мацнеюць з кожным днём...»

Жартуе аўтар? Так, так... Але паслухайце далей.

Са звароту салігорскіх шахцёраў да адміністрацыі вытворчага аб'яднання «Беларуськалій», Усесаюзнай асацыяцыі «Аграхім», Вярхоўных Саветаў СССР і БССР:

**«Мы, салігорскія шахцёры, занепакоены дрэннымі ўмовамі жыцця і працы, выступаем за прыняцце кардынальных і неадкладных мер арганізацыйнага, эканамічнага, прававога і палітычнага характару, накіраваных на спыненне эксплуатацыі чалавека працы адміністрацыйнай сістэмай. Палітыка ведамстваў з Масквы ператварыла вялізны палескі рэгіён, дзе жыве каля 300 тысяч чалавек, у экалагічнае пекла. Рабская праца гарнякоў, рабочых узбагачальных фабрык не адпавядае элементарным нормам бяспекі працы. Іх здароўе і жыццё абясцэнена. Мы вымушаны працаваць ва ўмовах павышанай канцэнтрацыі шкодных рэчываў, высокага ўзроўню радыяцыі на рабочых месцах. Асабліва небяспечным па газадынамічных і газапалымляльных з'явах з'яўляецца трэці калійны гарызонт, дзе не рэдкасць няшчасныя выпадкі са смяротным вынікам. Але адміністрацыя прадпрыемства выступае супраць увядзення катэгарыйнасці ў залежнасці ад размяшчэння гарызонтаў калію. Да гэтага трэба яшчэ дадаць высокі працэнт ручной працы, якая яшчэ і дрэнна аплачваецца»...**

Чаго ж патрабуюць яшчэ шахцёры? Сярод іншага, устанаўлення 30-гадзіннага працоўнага тыдня, уключэння ў рабочы час спуску-ўздыму па ствалах і пераходу па шахце да рабочага месца і назад пагадзіннай аплаты працы, прадугледжанай канвенцыяй МАП (Міжнароднай Арганізацыяй Працы), далей — вываду з прадпрыемстваў партыйных і камсамольскіх арганізацый, пазбаўлення іх штатных супрацоўнікаў вытворчых прывілей, прэмій, прагрэсівак і г. д.

«У выпадку незадавальнення патрабаванняў шахцёраў, — дэкларуецца пад канец звароту,— калектыў рабочых пакідае за сабой права на прымяненне выключных мер пратэсту — забастоўку».

Зварот гэты 6 жніўня г.г. быў агалошаны на канферэнцыі працоўнага калектыву «Беларуськалій» і падтрыманы значнай колькасцю дэлегатаў.

ПРА УСЁ ГЭТА мы гаварылі з сакратаром парткома аб'яднання А. Клімянковым. Аляксандр Тарасавіч — маладжавы мужчына з шапкай кучаравых валасоў — папярэдзіў: «Будзеце пісаць, адзначце, што зварот канферэнцыя адхіліла. Вырашана яго спачатку абмеркаваць на старонках нашай шматтыражкі «Калийщик Солигорска», а тады паглядзім».

Назаўтра, выпадкова сустрэўшы мяне ў адміністрацыйным будынку аб'яднання, ён, павітаўшыся, зноў нагадаў: «Дык запомніце, дэлегаты канферэнцыі зварот не ўхвалілі».

Вось такая ў парторга радасць. Мы доўга з ім размаўлялі на розныя тэмы. Сярод іншага даведаўся я, што Аляксандр Тарасавіч больш як дваццаць гадоў «пратрубіў» у шахце, з іх пятнаццаць узначальваў адну з лепшых брыгад у аб'яднанні. Выбіраўся (у канцы 70-ых) дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. «Бачыў, як пад рукі вялі Леаніда Ільіча да трыбуны», — усміхаючыся, успомніў мой субяседнік.

Я далёкі ад думкі падазраваць у нейкай нядобрасумленнасці перадавікоў і герояў часоў застою. Няма ў мяне ніякіх падстаў думаць нешта дрэннае ў гэтым сэнсе і пра Аляксандра Тарасавіча, хоць потым, у забоі, калі зойдзе гаворка аб ім, нехта з шахцёраў з'едліва скажа: «Штатны перадавік». Я не стаў удакладняць, што меў на ўвазе чалавек. Урэшце, зайздроснікаў у Клімянкова таксама, відаць, хапае.

**І ўсё ж, усё ж...**
**На сваім журналісцкім вяку я неаднойчы быў сведкам, як раздзьмухвалася «працоўная слава» літаральна з нічога, як кажуць, на пустым месцы. У Дзяржынскім раёне, дзе я калісь працаваў, вось так раптам, нечакана для ўсіх, узышла зорка непрыкметнай дагэтуль жывёлаводкі — яна ўжо нябожчыца, не буду трывожыць яе імя. А было так. Па разнарадцы на раён прыпала адна зорка Героя Сацыялістычнай Працы. На бюро райкома партыі доўга падбіралі чалавека «пад гэтую» Зорку. Запрошаныя сюды старшыні калгасаў адзін перад адным прапаноўвалі кандыдатуры, бо кожнаму хацелася мець свайго Героя. «Перамог» старшыня аднаго з калгасаў, назваўшы жывёлаводку, якая падыходзіла па ўсіх параметрах— член партыі, шматдзетная, даўно працуе ў калгасе. І вытворчыя паказчыкі быццам неблагія. Ён назваў лічбы гэтых паказчыкаў, на што першы сакратар скептычна адазваўся, што з такімі надоямі не тое што Зорку Героя, але і медаля не дадуць. «Зробім!» — запэўніў старшыня. І зрабіў. Літаральна праз месяц «шчасліўца» заваявала першынство па раёне, а потым па вобласці. Неўзабаве мы прачыталі ў газеце, што ёй прысвоена званне Героя. На будучы год яна была ўжо абрана дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, членам райкома і абкома партыі. І, трэба сказаць, так увайшла ў сваю ролю, што ніводная раённая, а то і абласная нарада без яе не абыходзілася. Выйшаўшы на трыбуну, ва ўсіх сваіх рэгаліях, яна звычайна пачынала так: «Як вучыць нас ПССС...» Спачатку ніхто не разумеў, што гэта за ПССС, а потым здагадаліся — непісьменная жанчына, якая ніколі не трымала ў руках газеты, так успрымала на слых словы КПСС.**

Хто з нас не вучыў у студэнцкія гады палітэканоміі капіталізму? Помню, настаўнік наш, кандыдат эканамічных навук, характарызуючы гэты пачварны лад, расказваў, на якія хітрыкі ідуць капіталісты, каб не згубіць сваёй улады. У тым ліку і падкупляюць частку рабочага класа.



Сёння ж я ведаю, што тыя ракфелеры і дзюпоны, іншыя «акулы капіталізму» памерлі б ад зайздрасці, каб даведаліся, як умее падкупіць, задобрыць, узняць на вышыню патрэбнага ёй рабочага чалавека наша родная КПСС.

На тых жа салігорскіх рудніках ёсць рабочыя, якія зарабляюць па 600—650 рублёў у месяц, у той час як большасць — удвая меней. «Хто вам не дазваляе зарабляць столькі ж?»— гавораць рабочым кіраўнікі аб'яднання. Але шахцёры ведаюць, што перадавікі таму і перадавікі, што працуюць на нямецкіх горназдабываючых камбайнах, а не на айчынным ламаччы, і ўчасткі для іх падбіраюцца самыя спрыяльныя, з добрым заляганнем салявых гарызонтаў.

...ВЯРТАЮСЯ думкамі ў кабінет Клімянкова, чую яго глухаваты голас. Аляксандр Тарасавіч гаворыць, між іншым, што яму вельмі не спадабаўся ў «Литературке» артыкул Данііла Граніна, у якім ён не вельмі пачціва адазваўся аб лідэры расійскіх камуністаў Палазкове. «Нельга так,— кажа Клімянкоў,— усё-такі заслужаны чалавек, абраны расійскім з'ездам, ды і на выбарах Старшыні Вярхоўнага Савета РСФСР не намнога адстаў ад Ельцына. Ва ўсякім разе ў прынцыповасці Івану Кузьмічу не адмовіш». Менавіта за адсутнасць, лічыць Аляксандр Тарасавіч, гэтых якасцей яму не падабаюцца лідэр Дэмакратычнай платформы ў КПСС Шастакоўскі, адзін з арганізатараў міжрэгіянальнай дэпутацкай групы ў Вярхоўным Савеце СССР Афанасьеў. «Упэўнены, што той жа Шастакоўскі ў мінулыя гады ў сваіх працах пісаў не тое, што піша цяпер»,— кажа мой субяседнік. Я пярэчу яму, што пад уздзеяннем акалічнасцей чалавек можа ўбачыць тое, на што раней у яго былі заплюшчаны вочы. Ва ўсякім разе, Шастакоўскі за свае погляды паплаціўся кар'ерай. «Усё роўна я ім не веру», — упарціцца Клімянкоў.

Сапраўды, хто можа прымусіць чалавека ў нешта верыць. Хоць бы тых чатырыста камуністаў з «Беларуськалію», якія за апошні год здалі свае партбілеты. Амаль кожны чацвёрты член КПСС. Я пацікавіўся, колькі за гэты час было прынята ў партыю. «Прытоку зараз няма».— глуха адказаў Аляксандр Тарасавіч.

Разумею, што яму нялёгка, а тут яшчэ патрабаванні вывесці з прадпрыемстваў партыйныя і камсамольскія арганізацыі. Рабіць гэта, як я зразумеў, партком аб'яднання пакуль што не збіраецца, але на такія-сякія ўступкі давялося пайсці. Ужо сёлета больш чым на палову скарачаецца колькасць вызваленых партыйных функцыянераў: было — 19, застанецца недзе 8. «Раней, — расказвае Клімянкоў, — у нас былі вызваленыя сакратары партарганізацый на рудніках і сакратары парткомаў на рудаўпраўленнях. Цяпер зарплату, недзе 380 рублёў у месяц, будуць атрымліваць толькі апошнія». Сакратар, не вельмі весела ўсміхнуўшыся, гаворыць, што да гэтага партком займаў у адміністрацыйным будынку цэлы паверх, цяпер жа засталіся толькі яго кабінет, прыёмная ды яшчэ невялічкі пакой. За ўсё гэта зараз прыйдзецца плаціць арэндную плату.

Цікаўлюся ў яго, што ўваходзіць у асноўныя абавязкі вызваленых партработнікаў. «Хіба мала ў іх работы? — здзіўляецца Клімянкоў.— На іх і арганізацыйная праца, не кажучы ўжо пра ідэалагічную. Трэба сустракацца з шахцёрамі, цікавіцца іх жыццём, настроем...» «А не пасылае іх за такую цікаўнасць сёй-той з рабочых «далей»? — пытаюся я. «Бывае, што і пасылаюць», — прызнаецца Аляксандр Тарасавіч.

На партыйнай рабоце ён усяго два гады. У канцы 1988-га быў абраны сакратаром парткома другога рудаўпраўлення і членам парткома аб'яднання, а калі яго сакратар Чыжоў пайшоў на пасаду першага сакратара Салігорскага райкома партыі, на вызваленае месца абралі Клімянкова. «Гэта партком абраў, канферэнцыі яшчэ не было, так што могуць там і не зацвердзіць,— з падкрэсленай інтанацыяй гаворыць Аляксандр Тарасавіч.—І працягнецца мая кар'ера там, дзе пачыналася...».

...ДЗЕ САГНУЎШЫСЯ крукам, а дзе паўзком прабіраюся па штрэку ўслед за сваім новым знаёмым, машыністам камбайна Іванам Вацлававічам Юргевічам, з якім і прыехаў на шахту. Іван Вацлававіч, нягледзячы на свой немалы рост, спрытна і хутка рухаецца па штрэку, вышыня якога крыху больш за метр. Вопыт ёсць вопыт. Мне цяжэй. Ды і спецадзенне — роба, вялікія, на тры памеры большыя за нагу, боты, каска, ліхтар з батарэяй, якая цяляпаецца на баку, ды яшчэ цяжкі цыліндрычны «выратавальнік» — скоўваюць рухі. Дарэчы, той «выратавальнік», як мяне праінструктавалі, прыйдзецца выкарыстаць на выпадак пажару пад зямлёй, завалу: сарваўшы пакрышку, можна будзе дыхаць чыстым кіслародам, які ўтвараецца там пасля нейкай рэакцыі. Наколькі хопіць таго «выратавальніка», я не папытаўся, моцна спадзеючыся, што ён мне не спатрэбіцца.

**Горача, твар залівае пот, праз крок-два стукаюся каскай аб столь. Мільгае думка, што каб не каска, сто разоў разбіў бы сабе галаву. Яшчэ хвілін дваццаць караскаюся па штрэку, бачу нарэшце Юргевіча, які паказвае мне рукой—перапаўзай праз нерухомы пакуль што транспарцёр. А вось і камбайн. На рэйках, пад тоўстым пластам пылу, стаіўся жалезны звер. Яшчэ праз колькі хвілін паплыў транспарцёр, зароў, загрукацеў, задрыжэў камбайн, угрызаючыся ў саляны пласт. Пыл умомант пакрыў мяне з ног да галавы. Не вельмі ратаваў марлевы рэспіратар, які я, не маючы вопыту, нацягнуў на твар не вельмі шчыльна. Але ўжо праз некалькі хвілін адчуў, што ў тым рэспіратары няма як дыхаць, лепш без яго... Калі б я верыў, што існуе пекла, дык цяпер бы ўяўляў яго не ў выглядзе класічных катлоў з кіпячай смалой, у якой пакутуюць грэшнікі, а менавіта вось такім — вузкай, вібрыруючай каменнай трубой, да краёў запоўненай гарачым пылам.**

**Іван Вацлававіч, між тым, увесь час у руху—то прыгнуўшыся, а дзе і на каленях спяшаецца да камбайна, нешта рэгулюючы ў ім, то паўзе да гідраўлічных механізмаў, якія, па меры прасоўвання наперад камбайна, забяспечваюць мацаванне столі, каб яна не абвалілася ад вібрацыі. Ёсць у суседнім штрэку, як я даведваюся, яшчэ і энергапоезд, які прыводзіць у рух камбайн і іншыя механізмы, перасоўвае ўвесь канвеер на новую пазіцыю.**

У лаве даўжынёй 200 метраў працуюць два камбайны, якія часцяком абслугоўваюць усяго два чалавекі. З-за гэтага, гаварыў Юргевіч, даводзіцца ўвесь час спяшацца, не зважаць на тэхніку бяспекі, хоць гэта і можа абярнуцца калецтвам.

ЦЯПЕР ПАЧЫНАЮ разумець сутнасць патрабаванняў аўтараў звароту аб давядзенні колькасці гарнякоў, якія абслугоўваюць двухкамбайнавую лаву,— да дваццаці чалавек, аднакамбайнавую — да чатырнаццаці. «Але ж у такім выпадку гарнякі пачнуць зарабляць меней»,— кажу я Івану Вацлававічу. «А мы і пры сённяшнім складзе брыгад зарабляем не больш трохсот рублёў. Час ужо спыніць такую эксплуатацыю і больш цаніць шахцёрскую працу. Я нядаўна прачытаў, што сярэдняя працягласць жыцця ў нашых шахцёраў — 49 гадоў. У амерыканскіх — 70».

Іван Вацлававіч узначальвае каардынацыйны савет саюза рабочых Салігорска. На ўстаноўчай канферэнцыі, якая адбылася 18 жніўня гэтага года і сабрала каля 90 дэлегатаў ад усіх чатырох рудаўпраўленняў «Беларуськалію», была прынята праграмная заява, якая акрэсліла палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя арыенціры рабочага саюза. Я потым прачытаю гэты досыць аб'ёмны дакумент, які ўразіць мяне сваім дэмакратычным, прагрэсіўным накірункам, канкрэтнай, што абапіраецца на рэаліі жыцця, клопатам аб салігорскіх гарняках. Чытаючы яго, я ўспомню, з якой пагардай і незадаволенасцю гаварыў аб устаноўчай канферэнцыі саюза рабочых Салігорска Аляксандр Тарасавіч Клімянкоў, які пабыў там, па яго словах, да перапынку. «Даклад Юргевіча,— расказваў ён,— насіў антыкамуністычны характар. І наогул, што гэта за ўмовы членства ў арганізацыі — прымаюцца ўсе, акрамя камуністаў і фашыстаў».

**Я гаварыў з Іванам Вацлававічам наконт гэтага пункту, даводзячы яму, што ён, мякка кажучы, звужае кола патэнцыяльных членаў рабочага саюза. У рэшце рэшт, ёсць многа радавых камуністаў, якія сябе нічым не заплямілі. Ён адказаў, што ўсе члены каардынацыйнага савета былі менавіта за такую фармулёўку. Асноўны іх аргумент — камуністы ў выпадку абвастрэння сітуацыі, калі адзіным выйсцем будзе аб'яўленне забастоўкі, пойдуць на ўсё, каб яе сарваць. «Калі пачаліся забастоўкі ў Кузбасе,— гаварыў між тым І. Юргевіч,—у нас былі створаны так званыя рабочыя камітэты, у якія ўвайшло шмат камуністаў. Менавіта пад**

**(Працяг на стар. 13).**

# ГАРОТНЫ ЛЁС АКОПАЎ

Акопы, як мы добра ведаем, адыгралі галоўную ролю ў духоўнай біяграфіі Янкі Купалы. Яны былі для яго тым куточкам, як, напрыклад, Ясная Паляна для Л. Талстога, Міхайлаўскае для А. Пушкіна. Але вядома, што ў Яснай Паляне і ў Міхайлаўскім існуюць дзяржаўныя музеі-запаведнікі, а купалаўскія Акопы, на жаль, засталіся занядбанымі.

Назву Акопы трэба разумець у шырокім значэнні. То вялікі абшар акопаўскіх ваколіц: разнастайных краявідаў асабліва ландшафту, шматлікіх вёсак і хутароў. Гэты ландшафт называюць Лысагоршчынай — ад назвы самай вялікай гары Лысай на Беларусі. Лысагоршчына — малая радзіма Купалы. Паэт у Вязынцы толькі нарадзіўся і пражыў каля года, а на Лысагоршчыне адбывалася фарміраванне ягонай асобы. З гэтым краем Купала быў параднёны на працягу 33-х гадоў (1895—1929).

Лысагоршчыну можна лічыць горным краем. Тут турыста перш-наперш здзіўляе экзотыка неспакойнага рэльефа, бо навокал сустракаюцца разнастайныя ўзвышшы — горы, высокія ўзгоркі, якія часам нагадваюць забайкальскія сопкі. З узвышшаў можна дзівіцца панарамай даляглядаў. Нярэдка сустракаюцца глыбокія старажытныя яры з крутымі схіламі, вясной яны грозна шумяць талымі водамі, а пасля, калі зазелянеюць дрэвы, на досвітках і пад вечар адсюль льюцца мілагучныя мелодыі лысагорскіх саловак.

Відаць, калісьці Лысагоршчына была лясістая, і людзям даводзілася для сваіх палеткаў вышукваць невялікія плоскія ўзгоркі, лагчыны, высякаць лес, карчаваць пні — рыхтаваць глебу пад пасевы.

Невядома, што сталася б з прыродным талентам Янкі Луцэвіча, калі б яго бацька не пасяліўся ў Селішчы, побач з высокаадукаваным панам Зыгмунтам Чаховічам з Малых Бясед.

Біёграфы Купалы мала звярталі ўвагі на «Селішчанскі універсітэт» З. Чаховіча, на яго ролю ў самаадукацыі паэта. Чаховіч і бібліятэка падмацавалі ў Янку неадступнае жаданне, парыў ісці ў свет шукаць лепшай долі, каб не змарнець на селішчанскім камяністым полі.

Хацелася б параіць біёграфам Купалы звярнуць увагу яшчэ на адзін прыродны аб'ект Лысагоршчыны, які меў значны ўплыў для напісання некаторых выдатных твораў.

У недалёкім мінулым, у 20-я гады, калі цікавіліся краязнаўствам, Лысую гару наведвалі шматлікія экскурсіі школьнікаў, студэнтаў, грамадскіх арганізацый. Панарама даляглядаў з яе — незабыўная. Адсюль можна было кінуць вокам паверх мяжы ў Заходнюю Беларусь, паглядзець, што дзеецца ў Радашкавічах. У сонечны дзень лагодзіць вока празрысты, нібы ў Альпах, блакіт неба, у нізінах неабсяжныя масівы лясоў нагадваюць сінь мора, сярод якога выглядаюць, нібы астравы, паляны.

У час побыту ў Акопах Купала любіў частавата наведваць свой «хорам высокі» (так паэт называў гэту гару). Тут, з «хорама вольнага, высокага», паэта здзіўляў, чараваў горны прастор даляглядаў, хацелася яму стаць «ветрам, птушкай-сокалам і ляцець у даль»...

Калі і як Лысагоршчына перастала быць Парнасам для Купалы?

У канцы 20-х гадоў росквіт сацыяльнай і нацыянальнай духоўнай культуры затармазіўся. На Лысагоршчыне даволі хутка зніклі хутары разам з гаспадарамі, у тым ліку і Акопы.

У пасляваенны час (1946—1948) дзейнічала мемарыяльная камісія па ўвекавечанні памяці Купалы, тады яна наведала Акопы і Вязынку. У Акопах не ўбачылі былой пекнаты, там страхоццем веяла ад зруйнаваных паселішч, малюнак Акопаў адпавядаў зместу драмы Купалы «Раскіданае гняздо», а адначасова нагадваў трагічныя старонкі яго біяграфіі. Вотчына Купалы была бязлюднай, бездарожнай, здзічэлай так, што не было ніякага сэнсу, тым болей у той цяжкі час, рабіць захады аб адкрыцці мемарыяльнага запаведніка.

Вязынка мела выгляд больш дабротны, на сядзібе захаваўся дом і побач навакольныя вёскі, а самае галоўнае — яна знаходзіцца недалёка ад Мінска пры бойкай дарозе. З таго часу Вязынка пачала выконваць місію цэнтральнага Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка, хаця гэтае права належала толькі Акопам.

Нельга сказаць, што мала зроблена для ўвекавечання памяці народнага песняра, дзякуючы шмат у чым дзейнасці яго жонкі Уладзіславы Францаўны Луцэвіч. Тут можна прыгадаць Літаратурны музей у Мінску, мемарыяльныя запаведнікі ў Вязынцы і ў Ляўках, шматлікія знакі ў розных мясцінах Беларусі і па-за яе межамі. Аднак родны кут Купалы да гэтага часу застаецца мала даследаваным, менш вядомым, чым Вязынка ці Ляўкі. Увесь матэрыял пра Лысагоршчыну раскіданы па часопісах і газетах, не сабраны ў адным выданні з адпаведнымі ілюстрацыямі. Адчуваецца, што пасля адыходу ад нас Уладзіславы Францаўны не знайшлося з нашчадкаў Купалы падобных да яе паслядоўцаў.

Акопы не зусім былі забыты, час ад часу, пераважна на падыходзе Купалаўскіх дат, хтосьці з мінскіх культурнікаў іх наведваў, рабіў агледзіны. Але — без усялякіх вынікаў. Толькі перад святкаваннем стагоддзя з дня нараджэння паэта быў прымацаваны мемарыяльны знак на акопаўскім валуне, на якім любіў пясняр калісьці адпачываць.

Праект арганізацыі мемарыяльнага запаведніка ў Акопах на старонках нашага друку не паказваўся, а ён дзесьці існуе, бо ў мінулым годзе ў в. Харужанцах быў пабудаваны дом пад філіял музея Янкі Купалы і адначасова пракладзена да яго дарога. Мясцовыя жыхары сустрэлі архітэктуру будоўлі даволі крытычна. На іх думку, дом выдаўся недарэчным, ён не адпавядае не толькі быламу ў Акопах, але такога дзівоснага жытла яны не сустракалі нідзе на Лагойшчыне. Нельга такую важную справу нацыянальнага характару вырашаць у вузкім коле без грамадскага абмеркавання.

Акопы — не Вязынка і не Ляўкі, а таму пры абмеркаванні адраджэння купалаўскай спадчыны на Лагойшчыне трэба лічыць самым важным запаведным аб'ектам — унікальны лысагорскі ландшафт і своеасаблівы ўклад быту тамтэйшага насельніцтва, бо яно спагадала творчым задумкам паэта.

Гэты горны ландшафт Беларусі ледніковага паходжання варта нашым краязнаўцам дэталёва даследаваць і зрабіць яго запаведным куточкам пад назвай: «Купалаўскі ландшафтны запаведнік Акопы».

У зону Купалаўскага ландшафтнага запаведніка павінны ўвайсці паселішчы, з якімі паэт меў сувязь: в. Сухая гара, в. Лысая гара, х. Акопы, в. Буды, х. Айчызна, в. Жукаўка, в. Карпілаўка, в. Малыя Бяседы, в. Дзяніскі, х. Селішча, в. Сярпішчына, в. Янушкавічы, в. Саўдзенівічы, в. Вялікія Бяседы, в. Баяры, в. Харужанцы, х. Ляўшова.

Адначасова неабходна абмеркаваць мемарыяльныя знакі для наступных аб'ектаў: в. Лысая гара — Купалаўскі «хорам высокі», х. Акопы — сядзіба маці Купалы, в. Карпілаўка — сядзіба беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), в. Малыя Бяседы — сядзіба духоўнага настаўніка Купалы З. Чаховіча, х. Селішча — сядзіба Луцэвічаў, в. Вялікія Бяседы — помнік купалаўскаму мужыку-беларусу, х. Ляўшова — сядзіба Ф. Аўлачынскага — адсюль паэт пачэрпнуў сюжэты для «Паўлінкі», для «Адплаты кахання» і іншыя.

Лысагоршчына можа стаць прывабным месцам для цікавай і плённай дзейнасці Беларускага краязнаўчага таварыства. Тут знойдзецца багатая даследчая тэматыка для гісторыкаў, археолагаў, філолагаў, географаў, біёлагаў.

Краязнаўчае даследаванне, мабыць, з поспехам маглі б зрабіць навукоўцы разам са студэнтамі ВНУ г. Мінска пад час летняй практыкі. Атрыманы матэрыял мог бы паслужыць для складання даведніка, які будзе патрэбен турыстам.

Неадкладнае апісанне купалаўскай Лысагоршчыны патрэбна і для таго, каб узяць пад ахову тамтэйшыя ўцалелыя помнікі, бо ўжо многія з іх амаль знішчаны.

Хочацца верыць, што з часам пры старannай нашай працы Купалаўскі ландшафтны запаведнік стане вялікім культурным асяроддзем на Беларусі, якое прывабіць шматлікіх турыстаў.

**Франц ГІНТАЎТ.**

# У КАГО СПЫТАЕМСЯ?

**Некаторыя развагі, выкліканыя кнігай Янкі СІПАКОВА «Журба ў стылі рэтра» з асацыяцыямі з «Эклезіяста», дзе слова даецца пісьменніку, прароку і крыху крытыку**

«Старажытныя грэкі казалі: «Давай насладимся плачем». Значыць, калі можна мець асалоду ад плачу, то можна атрымаць тую ж асалоду і ад гора, бяды, няшчасця, бо плач рэдка калі бывае ад радасці, ён часцей за ўсё ад непамыслоты.

Значыць, можа быць і такое: «насладимся» бядою? Якая жахлівая, халодная глыбіня ў гэтай лагічнай сентэнцыі. Аж боязна думаць далей, каб не ўпасці, як у калодзеж, у яе зварушлівае прадонне».

Страшна **думаць** далей. А жыць? Хіба можна схаваць галаву пад «крыло цішыні» ў шчаслівай краіне сноў і мараў? Дзе тая мяжа, калі чалавек, ратуючыся інстынктам самазахавання, павінен спыніць свае разважанні над праклятымі праблемамі быцця? А ці існуе яна наогул для чалавека? «Ибо кто знает, что хорошо для человека в жизни, во все дни суетной жизни его, которые он проводит как тень? И кто скажет человеку, что будет после него под солнцем?» (Эклезіяст, 6, 12)

Што будзе з самім паэтам пад крылом Чарнобыля, а не на «зямлі пад белымі крыламі»? Што будзе з тым маленькім хлопчыкам з паўднёвых раёнаў Беларусі, які, не дай Божа, можа і не дажыць да таго ўзросту, калі толькі пачынаюць усведамляць свой след у гэтым вечным кругазвароце?

«Нет памяти о прежнем; да и о том, что будет, не останется памяти у тех, которые будут после» (Э, 1,11). Тады навошта ўяўляць, што будзе з нашаю зямлёю? Бо ўжо практычна няма ў нас таго, што называецца «сферай існавання» — забруджана ўсё: вада, паветра, глеба. Навошта думаць аб тым, што можа здарыцца з нацыяй? «Свеце. Запішы хутчэй у Чырвоную кнігу беларуса, бо калі ўсё пойдзе так і далей, то запісваць ужо неўзабаве не будзе каго...»

Што здарылася з нашай душою? Чаму мы не любім родную зямлю, чаму мы з'яўляемся «унікальнай» нацыяй на свеце, якая выракаецца роднай мовы? Як мы склаліся ў такое грамадства, якое кідае камяні ў сваіх паэтаў? Калі адбыліся тыя «мутацыі сумлення, шчырасці, маральнасці, міласэрнасці, слова, дабрыні, чалавечых адносін»? Мутацыі такога злавеснага маштабу, што многія станоўчыя рысы характару беларуса — дабрата, спагадлівасць, цярпімасць, добрасумленнасць, шчырасць, адданасць —ператварыліся ў свае антыподы. Антыподы такога ўзроўню, што цяпер з нас смяюцца за тое, за што паважалі раней. Жорстка, бязлітасна? Так. Але калі не будзе сапраўднага катарсіса, наперадзе толькі адно — сапраўднае бяздонне. Бо сапраўды, «доколе не померкли солнце и свет и луна и звёзды, и не нашли новые тучи вслед за дождем» (Э, 12, 2) — задумаемся.

«Журба ў стылі рэтра». На якім слове зрабіць націск, якое з іх нясе асноўную сэнсавую нагрузку? Журба? Магчыма. Бо агульны тон усёй кнігі надзвычай самотны, Рэтра? Так. Бо самотнасць значна ўзмацняецца падсветкай мінулых ідэалаў, нечага светлага і дарагога, што так няўлоўна прысут-

# «БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР-91»




**Прадукцыя, так бы мовіць, выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі — самая разнастайная. Салідныя энцыклапедыі і сціплыя даведнікі, зводы помнікаў і бібліятэчкі па пэўных галінах ведаў. Ініцыятар выхаду многіх з іх — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва Алесь Петрашкевіч. Выдаваць штогадовыя настольныя беларускія календары — таксама ягоная прапанова.**

**«Беларускі каляндар» на 1991 год неўзабаве прыйдзе да чытача. У тым, што ён з'явіцца своечасова, вялікая заслуга навуковага рэдактара В. Бугаёва. Яму давялося быць і ўласна рэдактарам, і карэктарам, і тэхнічным рэдактарам. Шмат папрацаваў і мастацкі рэдактар П. Кухта. Выходзіць жа «Беларускі каляндар-91» пад агульнай рэдакцыяй А. Петрашкевіча.**

**Аляксандр Лявонцьевіч пазнаёміў мяне з адбіткамі будучага выдання. Натуральна, узнікла жаданне пагаварыць з ім і пра змест календара, і пра яго задачы, і пра перспектывы настольнага даведніка.**

— Выпуск календароў,— зазначыў А. Петрашкевіч,— традыцыя даўняя, ёй ужо амаль пяць стагоддзяў (пра гэта я расказваю ва ўступе да нашага выдання). Фактычна першым усходнеславянскім друкаваным царкоўна-астранамічным календаром з разлікамі на 1523—43 гады была «Пасхалія» з «Малой падарожнай кніжкі» Францыска Скарыны. Між іншым, першы рускі друкаваны каляндар пад назвай «Святцы або каляндар» таксама выдаў беларус, Ілья Капіевіч, у 1702 годзе, у Амстэрдаме. Пазней гэтае добрае пачынанне знайшло свой працяг. Не буду займацца пералікам календароў, якія выходзілі ў розны час, скажу толькі, што справу каляндарных выданняў прадоўжыла ў 1910—13 гады газета «Наша Ніва». Яе «Беларускі каляндар» карыстаўся вялікай папулярнасцю, набіраўся кірыліцкім і лацінскім шрыфтамі. Выдаваліся беларускія календары і ў Заходняй Беларусі, а з 1957 года ў Беластоку выпускае «Беларускі каляндар» Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы.

**— Апошнім часам выходзілі тэматычныя і настольныя на-**

# Запрашае «Праметэй»

**Магазін-клуб «Праметэй» пры універсальнай кніжнай краме № 16 Брэсцкага аблкнігагандлю хутка будзе адзначаць сваё дзесяцігоддзе. «Ні пра што не думае толькі той, хто нічога не чытае», — гэтыя словы Д. Дзідро сталі дэвізам клуба. У летапісе яго — сустрэчы з цікавымі людзьмі, грамадскія абмеркаванні газетных і часопісных публікацый, першыя чытанні твораў, якія дзесяцігоддзямі былі недаступныя для чытачоў...**

**Не так даўно адбылася прэм'ера зборніка вершаў «Абрысы лета» нашай зямлячкі Зінаіды Дудзюк.**

**Вялікую цікавасць члены клуба праявілі да выхаду альманаха бібліяфілаў Беларусі «Свіцязь». Гэтае пасяджэнне клуба прысвячалася 50-годдзю ўз'яднання Заходняй Беларусі і БССР. На пасяджэнне быў запрошаны Ц. Ліякумовіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт педінстытута, адзін з аўтараў альманаха «Свіцязь».**

**На чарговае наша пасяджэнне клуба прыйшлі чатыры служыцелі культу на чале з настаяцелем Брэсцкай царквы дабрачынным айцом Яўгеніем. Пра вытокі маралі, сумлення, пра вечныя агульначалавечыя ісціны ішла ў нас гаворка.**

**З. КАВАЛЕНКА,**
**старшыня клуба «Праметэй».**

**Аляксандр СТАНЮТА**






**Дыялогі з маці. Старонкі будучай кнігі**

— Не, гэта ўсё было як сон. Міраж...

*Кастрычнік, апошняе святло кароткага сонечнага дня і рудое, чырвонае лісце пад нагамі. Круглая драўляная лава насупраць кандытарскай крамы «Рамонак», — абедзенны перапынак там хутка скончыцца.*

*Бясконцы паток людзей. Шмат маладых загарэлых твараў. Ляпаюць дзверцы таксовак, чуецца смех, кагосьці гучна аклікаюць...*

— Міраж, вядома...

— Пра што ты?

— А пра ўсё. І галоўнае, як хутка праімчалася... Я заўсёды думала: о-о, гэта яшчэ доўга, доўга... А гэта ж-жых — і праляцела. Цэлае жыццё! Ну, усё роўна як сон, дальбог!

●

*...Відаць, як у густых ужо прыцемках, скрозь лістоту вялікіх дрэў старога сквера свецяцца вокны грыміравальных пакояў, — але каля тэатра яшчэ пуста. Пуста і ў скверы (рэдкія ліхтары і вецер, карканне нябачных варон). Шэсць гадзін вечара, хутка зусім сцямнее.*

*Паветра тэатра. Ты не акцёр, ніколі не працаваў у тэатры, а ягонае паветра, пахі заўсёды пазнаеш як пахі свайго дому. Здаецца, што ты вырас тут...*

— Бабуля прыбягала да мяне, калі я на рэпетыцыі раніцняй, і я выходзіла, дзе-небудзь прысяду ў куточку — і сцэджваю малако. А потым наша Каралінка бутэльку з малаком — за пазуху і дадому, цябе карміць — зноў бегма, па снезе, па марозе...

*Ідзём па вуліцы Кірава ўздоўж даваеннага яшчэ будынка на рагу з вуліцай Энгельса.*

— Вось тут сама пошта была, дзе яна працавала.

— Кур'ершай ці паштавічкай?

— Прыбіральшчыцай. А потым хадзіла сюды за пенсіяй сваёй. «Мая пэнсія, мая пэнсія»,— усё паўтарала, і пешшу, пешшу сюды, праз увесь тады горад, з вуліцы Талстога... А цяпер вось і мая «пэнсія» тут.

*Тэатр побач. Вахцёр гучна, амаль што крыкам, вітае яе і з такой самай гучнай весялосцю паведамляе, што ні пісьмаў, ні грашовых пераводаў пакуль няма. Выходзім у сквер, былы Аляксандраўскі сад, з адзінай ужо, мабыць, гарадской памяткай мінулага стагоддзя — фантанам са скульптурай хлопчыка і лебедзя ў цэнтры, — 1874 год.*

— Час... Што такое час? Усё — і нічога. А наш час? Божа, што ж гэта будзе?..

*Мільганула ў памяці нядаўняе: тэлеэкран і нечае інтэрв'ю — з'едлівая, злая праўда, з націскам, усё хутчэй, узвінчана, — а яна глядзіць, слухае і раптам, нібы самой сабе, паціху так: «Вось, кажуць, будзе грамадзянская вайна... Няўжо ізноў?..»*

●

— А гэта што? Не, здымак гэты, здымак. Дай сюды... Агава... Так, я — Агава. Эўрыпід, «Вакханкі». Вось дык Стэфанія Станюта — нават ужо сама не веру.

— Галоўная роля?

— Гэта мы ў Маскве пачалі... Так, яшчэ ў студыі, а выпусцілі ў Віцебску, у дваццаць шостым, калі тэатр адкрыўся. А пераклад рабіў нам Дрэйзін Юліян,— музыказнаўца, ведаў мовы, ён выкладаў у Мінску, але і ў нас тады ў Маскве часта бываў. І ён на беларускую са старажытнагрэчаскай перакладаў — вось што адзнач.

— Са старажытнагрэчаскай?

— Так, так. Я памятаю, што ў фінале хор — ну, ведаеш, як у антычных трагедыях: хор і пратаганіст, галоўны актор,— дык вось хор гэты абвяшчаў... Зараз, зараз... Неяк змрочна, з такой трагічнай урачыстасцю:

*Шчаслівыя людзі, якія ўбеглі*
*ад бурнага мора*
*І ў прыстань увайшлі.*
*Шчаслівыя людзі, якія перамаглі*
*бяду.*
*Непадобныя людзі адзін да*
*другога ні шчасцем, ні сілай.*
*Мноства людзей ёсць —*
*і мноства надзей.*
*Іншыя шчасцем канчаюць,*
*Іншыя ж — гінуць.*

*Хто сёння шчасліва жыве,*
*Таго я шчаслівым лічу...*

— І, памятаю, пасля «іншыя ж гінуць» і ў самым канцы так грозна, як удар лёсу, у аркестры раздавалася: бум-бум!.. Шчасце, шчасце... Хто ведае, дзе шчасце...

— Ніхто не ведае.

— Гэта добра. (Паўза.) Гэта добра.

●

— Чаю наліць?

— Налі. Ты з тэатра?

— Чыталі ж сёння Камю. Я гаварыла? «Бесы», паводле рамана Дастаеўскага. О-хо-хо-хо... Не ведаю. Нават страшна робіцца. Во дзе прарок быў дык прарок. Ну ўсё роўна як пра нас цяперашніх. Аб-са-лют-на... Божа, гэта ж кожны — за сваё і за сябе. І быццам бы за ісціну, а... Не зразумееш. Не верыш. І плюралізмы гэтыя... Усё так сплятаецца, усе са скуры вылазяць — і дзе ж тая ісціна?.. Ты вазьмі п'есу, паглядзі. Вялізная, старонак сто семдзесят — і як гэта паставіць?

— Во паслухай, як у рамане,— заўтра студэнтам трэба ў лекцыі чытаць. Адзін тэарэтык прапануе сістэму: «Кожны член грамадства сочыць адзін за адным і павінен даносіць. Кожны належыць усім, а ўсе — кожнаму...»

— Во-во, калектыў.

— Так. Слухай: «Усе рабы і ў рабстве роўныя. У крайніх выпадках — паклёп і забойства, а галоўнае — роўнасць».

— Ведаеш, як гавораць па-руску, калі не вымаўляюць «эр»: не «все равны», а «все гавны».

— А далей так: «Перш за ўсё — панізіць узровень адукацыі, навук і талентаў...» І тут ужо гэта, вядомае: «Цыцэрону адразаецца язык, Каперніку выколваюць вочы, Шэкспір пабіваецца каменнем».

— Шэкспір, зразумела ж, каменнем. А як жа.

— Потым: «Мы кожнага генія пагасім у дзяцінстве. Усіх — пад адну рысу, поўная роўнасць».

— А там, у п'есе, нехта ўсё дзяўбе: накарміць, спярша накарміць! Разумееш? Во як зараз: чаго вы бастуеце, трэба ж спачатку накарміць людзей. І яшчэ там: боты! Усіх абуць у боты!..

●

— Вось дзіўна — у цябе бывала так? Раптам як быццам кадр перад вачыма, кавалачак з таго, што некалі было — і без усякай сувязі... Зараз убачылася: трамвай у Еўпаторыі, чырвоны і маленькі, адзін вагончык, як і ўсюды там. Памятаеш, мы яшчэ звалі яго «кітайскі ліхтарык»?.. Ну вось чаму, чаму так бывае: раптам — раз! — і штосьці так выразна ізноў перад табою... І чаму менавіта гэта, а не іншае? Я ж стаяла цяпер тут, побач з плітою, перастаўляла кубкі ці яшчэ што, во налівала сюды ваду. А можа, глянула ў акно — як там клююць мае сініцы...

— Нешта было. Толькі несвядомае. Дало іскру. Слова якое-небудзь ці вось радыё — тут галасы і музыка... І ў цябе замкнулася.

— Я разумею, разумею. Не, але чаму менавіта гэта — і зараз? Мы едзем у тым «ліхтарыку кітайскім»...

— А яшчэ, памятаеш, з нейкай песні: «китайский колокольчик»?

— Дык гэта ж Аляксандр Вярцінскі. Я бачыла яго... Канешне, ён (спявае):

*Ах, где же вы, мой маленький*
*креольчик,*
*Мой смуглый принц с*
*Антильских островов,*
*Мой маленький китайский*
*колокольчик,*
*Капризный, как дитя, как*
*песенка без слов...*

— Мы гэта пелі часта на дачы Уладзіміра Іосіфавіча Уладамірскага, у Крыжоўцы. Я, Вольга Уладзіміраўна Галіна... Канец пяцідзесятых, пачатак шасцідзесятых... І нікога ўжо няма. Страшна.

●

— ...А якія піражкі былі калісьці ў Гітэлэ, у Віцебску! Мы бралі толькі ў яе. І танныя, і вельмі, вельмі смачныя!.. А я ж тады, у другой палове дваццатых, была ў Віцебску сапраўдная зорка — так, а што ты думаеш... Вядома, я гэтага так не ведала, не разумела, як зараз, але... Глядзі, я ж іграла і ў «Дванаццатай ночы», і ў «Вакханках», і ў «Эрасе і Псіхеі»... І была гераіня па амплуа ў поўным сэнсе, так. Дваццаць адзін мне споўніўся толькі, а глядзі, якія ролі! Тытанія, Агава... І Псіхея. А якія аўтары, як зараз кажуць? Шэкспір, Эўрыпід,— ну што ты!.. Вось маладым што іграць. А што ў нас яны зараз іграюць? Саміх сябе.

— А гэта ўжо завецца: свайго сучасніка.

— Сучасніка... І розных там блатных ці... як іх... хіпі...

— Ну, ты ўжо ўзялася...

— Але амаль, амаль што так. Нярэдка. Я разумею, усё гэта, вядома, трэба. І шмат чаго падгледжана вельмі дакладна. Але... Я не ведаю: ну вось ён, маўляў, такі — і шкадавання варты, і вінаваты, і сёе, і тое, і пятае, і дзесятае — як, значыцца, само нашае жыццё... Добра, вось ён такі, а ў наступны раз нехта іншы і там ізноў — і тое, і другое... Як гэта растлумачыць... Ну, няма значнага характару. І тыпа... І героя. Мільгае ўсё, знікае — і не трымаецца, не застаецца. А можа, я проста не разумею — усё змяняецца — і хутка. Хоць мне ж усё новае заўсёды так цікава...

*НЕКАЛІ:*

*чыйсьці замежны балет у Маскве — іспанскі ці французскі— і тэлебачанне паказвае доўга, падрабязна... Яна, не адрываючыся ад экрана, амаль не змяняючы позы, глядзіць ледзь не гадзіну. «Бачыш, на поўную ступню тут крок. Харэаграфія зусім іншая, не класічная». — «Ну, і як гэта табе?» — «А вельмі цікава, вельмі... Я ж усе гэтыя па-дэ-дэ і піруэты — «Жызэль» і «Лебядзінае», «Шчаўкунчык» — я гэта бачыла яшчэ ў шаснаццаць гадоў. Цудоўна. Але мне цікава: а як зараз? І як будзе потым?»*

*НЕКАЛІ:*

*глядзім з ёю Уладзіміра Высоцкага ў тэатры. Ён — Гамлет. У чорным трыко і чорнай майцы. Без грыма, і гітара на папрузе праз плячо. З дэкарацый — адна заслона-сетка, ён б'ецца з ёю, праз яе хоча прабіцца і прарвацца, ёю аддзелены ад усяго і ўсіх. Хрыпла выкрыкваеспявае пастэрнакаўскія словы: «Я один, все тонет в фарисействе...» Пасля спектакля вечаровае жнівеньскае сонца яшчэ не*

*зайшло, мы ідзём уніз ад мінскага Дома афіцэраў — асфальт, зялёныя купы ліп і купал цырка скрозь іх. «Ну вось скажы — ты ж столькі рознага пабачыла на сцэне — што такое гэты Гамлет, табе падабаецца?» І яна з трохі бянтэжлівай усмешкай, быццам пераадольваючы нешта ў сабе, як і заўсёды, калі даводзіцца прызнавацца ў сваім расчараванні сярод агульнага захаплення: «Ну як табе сказаць... Гэта, вядома, цікава. Але...» — і тут доўгая паўза. «Але — што?» — І тады ўжо нарэшце сцішаным голасам, быццам нехта можа пачуць, і як бы насуперак нечаму свайму: «Але... вось значнасці няма».*



●

— У нас жа настаўнікі былі якія! Вось мой педагог Валянцін Сяргеевіч Смышляеў з другога МХАТа, ён выкладаў у нас у студыі ў Маскве... Дык ён жа сапраўды быў наватарам — як чалавек, мастак, які хоча і ўмее рабіць новае пасля ўсяго, што ўжо ўзяў у класікі. Ён хацеў бачыць актора, так сказаць, сінтэтычным. Каб у яго і глыбіня пачуцця была і глыбіня пластычнага выяўлення гэтага пачуцця. У нашай першай пастаноўцы, у народнай драме «Цар Максіміл'ян», напрыклад, ролю багіні Венеры Кумярыцкай спачатку рыхтавала адна Чарназёмава. Але калі Смышляеў убачыў мяне на экзаменах па танцу і рытміцы, то ролю гэтую далі і мне. А танец я любіла заўсёды, з дзяцінства. Тады, у нашым наборы маскоўскай студыі, па пластыцы і танцу я была лепшай разам з Канстанцінам Саннікавым і Аляксандрам Ільінскім. Танец — гэта ўсё для мяне, яшчэ і да гэтай пары...

— Ты часта ўспамінаеш сваіх першых настаўнікаў?

— Заўсёды помню. І Смышляева, і Барыса Макаравіча Афоніна, і Гіяцынтаву,— яна выкладала ў нас мастацкае чытанне...

— У Мінску, у архіве літаратуры і мастацтва бачыў паперу 1922-га ці 1923-га года: за працу ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве Гіяцынтавай выдадзены заробак — адзін мех бульбы...

— Вось бачыш... А магілы Смышляева і Афоніна я апошні раз наведала, калі была сёлета ў Маскве. Гэта на Навадзявочых могілках. Прыйшла туды разам з блізкімі Клаўдзіі Шульжэнкі, пастаяла і каля яе магілы.

— Ты ведала Шульжэнку ў жыцці?

— Не. Не так даўно глядзела фільм-канцэрт пра яе. Яна і старое — сваё маладое — пела: «Запіску», «Партрэт», нешта яшчэ, можа, «Маму» ці «Сочы»... І апошнія свае песні... Гэта страшна.

— Чаму?

— Таму што чалавека ўжо няма, а яго песні, голас, постаць, жэст і твар,— вось яны. На экране. А гэтага ж няма ўжо. Мы прывыклі: хай гэтага няма, але, маўляў, усё-такі, нягледзячы ні на што, — ёсць. Аптымістычная трагедыя. А трагедыя такой не бывае. Разумееш, тут наадварот — усё нібы кажа табе: гэта ёсць, ёсць, вось яно — а гэтага няма ўжо — і ўсё... Вось наша Вольга Мікалаеўна, родная пляменніца Шульжэнкі, яна не можа слухаць яе пласцінкі ці па радыё... Пачуе — і адразу ж плача.

●

— Што ты гартаеш?

— «Веснік тэатра», Рыга.

— А, гэта я купіла тут, у Юрмале. Лесь Курбас вось, на здымку... Украінскі рэжысёр. У трыццатых яго расстралялі. Як усіх, хто хоць чымсьці... з агульнай масы... Пазнішчалі. Павырывалі з карэннем... А які быў перад тым залаты час для мастацтва — у дваццатыя гады!..

— Сам гэты час настаўнічаў для вас таксама.

— Ты толькі паспрабуй уявіць, што рабілася: безліч мастацкіх, тэатральных студый, Камерны тэатр Таірава, Вахтангаў, Меерхольд... І акторы — Качалаў, Масквін, Станіслаўскі...

— І Неміровіч-Данчанка, вядома.

— А табе смешна ўжо... Ён не быў акторам.

— Прабач, гэта я машынальна.

— ...Аліса Коанен — які жэст, якое яго напаўненне... І наогул: мы заходзім у кафэ «Стойла Пегаса» — у гармідары, у сінім дыме чытаюць — не, крычаць — свае вершы Вадзім Шаршаневіч, Сяргей Ясенін... А потым мы бачым, як танцуе Айседора Дункан. Мы дыхалі паветрам вялікага мастацтва, так,— штодзённа, пяць гадоў... Некаторыя пакінулі студыю, пайшлі ў літаратуру — напрыклад, Міхась Кудзелька, ён самы Міхась Чарот...

— А потым...

— А потым і да іх дабраліся. Але ты глядзі, выполвалі, быццам пустазелле, усё непадобнае, смелае. Пазабівалі, павысылалі... Я калі чую гэтае слова — «следчы»,— думаю пра Салжаніцынавых следчых. Ці прыгадваю таго чалавека, што судзіўся з Алесем Адамовічам з-за Сталіна. Помніш, паказвалі па тэлебачанні? Які твар — цяпер ужо пажылы, а тады... Добра, мусіць, катаваў ужо... (Доўга маўчыць.) Бясправе... Бясправе... Невукі. Хамулы. Ім далі ўладу. Што яны вытваралі, што вытваралі...

●

— Што ты прачытаў у Евангеллі? Вось зараз.

— Што верыць — гэта, па сутнасці, страціць розум. Вер, кажа Хрыстос, і гара ўздымецца і абрынецца ў мора. Але рэальнасць, сапраўднасць з месца не скранеш. І разам з тым яна нярэдка павінна быць ссунута, каб чалавек жыў. Значыць, яму застаецца адно — скрануць яе ў сваёй свядомасці. Самой свядомасці патрэбен зрух ці злом. І яна выходзіць за свае межы, страчвае іх...

— Можа, і так.

— Хрыста распнулі ў пятніцу, у тры гадзіны дня.

— Гэта ж трэба такую смерць прыдумаць. Неяк успомнілася гравюра «Зняцце з крыжа», у Дарэ. Рукі і ногі цвікамі прыбіваць. Малаткамі... Як жа ён мучыўся, пакуль памёр... Не, нездарма ён маліў там, у Гефсіманскім садзе, пранесці гэтую чашу міма яго...

●

— Учора, памятаеш, я табе чытаў, што Грэта Гарба ў 1940 годзе пакінула кіно і свецкае жыццё, а было ёй тады толькі трыццаць шэсць. Чаму так? Гора якое, псіхічнае захворванне? Або страх будучай няўдачы, правалу, жаданне пайсці са славай?

— Бывае... Гэта бывае... Хутчэй за ўсё, якое-небудзь парушэнне ў псіхіцы, нейкі зрух. Амаль непрыкметна знешне. А для яе ўсё ў іншым святле, інакш... Бывае. Асабліва ў жанчын.

— Але ў такім узросце?

— І ў такім таксама можа быць.

— Я, мабыць, яе не бачыў ні ў адным фільме.

— Ты — не, не мог. А я бачыла. Помню.

— Сёння ў «Советской культуре» артыкул з фотаздымкам «Апошняя багіня Галівуда»,— аказваецца, у гэтым годзе памерла і Ава Гарднэр. Яна намнога маладзейшая была за Грэту Гарба...

— Яе не ведаю, не бачыла.

— З ёю ў адзін час здымаліся Грэйс Келі, Рыта Хэйуорт, — іх памятаеш?

— Не. Вось гэтую... мм... Хэпбёрн — Одры Хэпбёрн — помню. Наташа Растова ў амерыканскай «Вайне і міры». Ну, гэта хороша. Такая даўгалыгая нібы... А малайчына, вельмі хороша.

*Нахіляецца і паказвае рукою ўніз, на празрыстую ваду каля самага берага.*

— Бачыш, ну ўсё роўна як нечы твар.

— Не бачу.

— Ну вось жа, вось: адно вока,— нечым цёмным, ці не глеем намяло, — другое вока, а ніжэй — рот...

*Сапраўды, скрозь тонкую паверхню вады на рыфленым хвалямі светлым пяску — быццам чыйсьці твар. І нават з выразам.*

— А, бачу — і гэтае вось левае брыво, як у П'еро, так ссунута...

— Тужліва.

*Жанчына сярэдняга ўзросту прайшла, потым спынілася і хоча разгледзець яе, — так разглядаюць, жадаючы ўпэўніцца, што не памыліліся, -хутка пераходзячы з месца на месца і ўжо не стараючыся рабіць гэта непрыкметна.*

●

— Глядзі, цябе ізноў пазналі.

— Бачу. Ох, не кажы... Іншым разам ужо робіцца неяк не па сабе. Не, заўсёды гэта, канешне, прыемна, што там гаварыць... І ўсё ж такі ў апошні час усё часцей робіцца няёмка. Учора ішла вось так, уздоўж мора, потым павярнула, спынілася ля кіёска, нешта спытала, а пажылая жанчына адтуль: «Ой, гэта вы... Няўжо вы? Я ваш голас заўсёды пазнаю і бачу часта...» Гаворыць з акцэнтам, як латышка, але яна, аказалася, з Беларусі, нарадзілася ў Віцебску. А галава ледзь прыкметна трасецца, як пры хваробе Паркінсона. «Вы не паверыце, як я рада вас бачыць вось так, побач. Я ведаю вашы фільмы, асабліва беларускія: «Мама, я жывы!» — і іншыя». Вось такая сустрэча, уяўляеш?

— Уяўляю. Што ж, вельмі добра.

— Вядома. Я, калі яшчэ толькі пачыналася праца над фільмам «Развітанне» ў Асташкаве, на возеры Селігер, бачыла, як такое адбывалася з Маяй Булгакавай. Ну, тады мяне яшчэ мала ведалі. А яна была ўжо вядомая. І я пабачыла, што гэта такое, калі цябе пазнаюць усюды, падыходзяць, хочуць пагаварыць. Разумееш, гэта ж не людзі тэатра, кіно, мастацтва наогул, а... ну, простыя жанчыны ці, як у нас кажуць,— савецкія людзі, так? А ім важна, што яны не толькі на экране бачаць цябе, а вось як мы цяпер з табой адзін адnago,— ну, гэта трэба адчуваць. І, помню, я стаю з Булгакавай, а да яе падыходзяць: «Гэта вы? Дзякуй вам, дзякуй!.. Мы вас усе ведаем, дарагая вы наша». А я сабе думаю: божа, як жа гэта добра... Ну а цяпер вось — і да мяне людзі гэтаксама. О-хо-хо... Прыемна, але і... (Паўза.)

— Што — «і»?

— І неяк усё ж несвабодна, ці як... Не, не тое слова. Міжволі пачуццё такое — ведаеш: ну добра, калі ўсё гэта ты заслужыў. А калі не зусім?.. (Доўгая паўза). Не, хтосьці гэта ўсё робіць з намі на гэтым свеце і пераступае, як фігуркі,- чалавек не ўладны ў сваім лёсе...

### З пошты «ЛіМа»

# Калі думаю пра лёс дзяцей...

**Пачаўся новы навучальны год — і для студэнтаў, і для мяне як для выкладчыка. Радуюцца толькі што прынятыя, свежаспечаныя першакурснікі. Хто ж на гэты раз возьмецца грызці «граніт навукі»?**

**Грамадская думка ўжо даўно разглядае Афганістан як памылку. Як жа папрыліся нашы авангарднікі аб жывых ахвярах? А далі ім права... па-за конкурсам паступаць у некаторыя ВНУ, і ці не для гэтага паналяплялі ў педагагічных інстытутах кафедраў... пачатковага ваеннага навучання. Хутка вайна? Ці так мацаваць рэформу ў школе — строем ды песняю «Раз, два, тры...»?**

**А тыя хлопцы з Афгана праз аднаго ніякія не педагогі. Потым лёс адпомсціць у першую чаргу ім, не здольным працаваць у школе, але ж адпомсціць і нашым дзецям праз недасведчаных настаўнікаў.**

**А вось самы апошні выбрык у галіне школьнага «катастрофаведзення». Згодна з ранейшым пісьмом Мінвуза і Мінасветы БССР і загадам № 158 ад 20.06.90 г. у ВНУ Беларусі па-за конкурсам прымаюцца абітурыенты з зонаў радыяцыйнага забруджання (ёсць пералік раёнаў). Не думаю, каб міністр Дзямчук па сваёй ініцыятыве праявіў «дабрачыннасць», але ў любым разе гэта прыкмета крызісу.**

**Такім чынам, улічваючы поўнае адубенне рубля, нашы разумнікі як бы вынайшлі разавую валюту для кампенсацыі. Але ж гэта той самы афганскі трук. Той жа хабар за маўчанне!**

**І — бяруць! І прыязджаюць без ведаў, але з цвёрдай упэўненасцю, што маюць права. Іхняя мара — тройка, іхняя наканаванасць — быць удзячнымі.**

**Гэта палітыка на знішчэнне школы патрабуе выканаўцаў, і яны ўсюды ёсць. Гэта, у асноўным, члены партыі, што падаліся туды ў свой час дзеля пасад і званняў. Няма людзей, адзін апарат. Падмена, падман... А тым часам ужо даўно вучні часта пазбаўлены педагогаў; тыя, хто выконвае гэтую ролю, хлусяць ім выдатнымі адзнакамі, здольным не даюць тое, што тыя могуць узяць. Школа здрабнела, вырадзілася. Трэба яе адраджаць, і, на мой погляд, гэта магчыма толькі, калі ўсталяваць дыферэнцыраваныя па характары навучання і яго якасці школы, каторыя давалі б лепшым вучням магчымасць знайсці сябе ды і астатнім атрымаць мінімум ведаў.**

**Можна было б вярнуцца да гімназіі. Мой бацька, напрыклад, адмераў са сваім бацькам, маім дзедам 300 кіламетраў пехам у Вільню ў адзіную на той час беларускую гімназію — знайшліся ў паноў і грошы, і інтэрнат для беднага, але здольнага хлопца. А веды засталіся на ўсё жыццё, ды й грунтоўнейшыя, чым дае савецкі інстытут.**

**Такія пераўтварэнні патрабуюць адпрацоўкі тэставага ці іншага выверанага кантролю, перагляду структур ды штатаў, але і славутае «кансалідацыі здаровых сілаў». Апошняе мяне турбуе больш за ўсё. Хто згодзіцца з тым, што ён хворы?**

**Нам трэба адмовіцца ад старой канструкцыі — яна не дае плёну. Новыя структуры з ёю вымушаны быць са старым зместам. Сувязі, пасады робяць сваё.**

**Ёсць і ў нашых, мякка кажучы, фантазёраў і летуценнікаў адна рэальнасць. У іх ёсць дзеці ды ўнукі. Не самаеды ж яны! Гэта адзінае, на што раблю стаўку, калі думаю пра лёс сваіх дзяцей.**

**Я. БАЛАСІН.**

г. Брэст

# МАСТАЦТВА—ГЭТА... СВОЕЧАСОВА!

**Сёння, 12 кастрычніка, адкрывае сезон Акадэмічны тэатр оперы і балета БССР**

Скончыўся летні антракт, і зноў расхінута заслона адзінага ў рэспубліцы тэатра оперы і балета. Не ведаю, як для каго, а для мяне адпускны перапынак праляцеў непрыкметна. Можа, таму, што быў повен, як ніколі, мноствам падзей і гастроляў?

Для опернай трупы тэатра лета пачалося паездкай у Маскву. Дзяржаўны тэатр Дружбы народаў запрасіў на сцэну Вялікага СССР спектакль «Дзікае паляванне караля Стаха». І нягледзячы на тое, што ў гэты час у самым разгары быў Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага, выступленне тэатра адзначана і гледачамі, і крытыкамі, і тэлебачаннем, і нават Міністэрствам культуры СССР, і прадстаўніцтвам Беларусі ў Маскве. Дарэчы, адбылася вельмі цёплая і прыемная сустрэча ўдзельнікаў і стваральнікаў спектакля з прадстаўнікамі «Рады беларусаў» у Маскве. Гэта было ў канцы чэрвеня. А ўвесь ліпень тэатр меўся гастраляваць у Калінінградзе, пасля адпачынку — «малыя» (па-першае, без балета, па-другое, на два тыдні) гастролі оперы ў Гродне.

Заўліт на месца будучых гастроляў выязджае звычайна ў ліку першых. Аббегшы традыцыйны трохкутнік «ТБ-радыё-газеты», я адчула горкае расчараванне: мы са сваім тэатрам не патрэбныя (хоць такія думкі напрошваліся і раней...). Яго Вялікасць Крызіс ператварыў нас усіх не толькі ў мутантаў фізічных — гэткіх здабытчыкаў з добра развітымі нагамі і локцямі, але і мутантаў духоўных, якія пытанні «што? колькі? дзе?» звязваюць толькі з харчам. Акрамя таго, кругазварот грамадска-палітычных праблем закружыў галаву ўсім «узроставым катэгорыям і пластам насельніцтва» настолькі, што ім яўна не да паходаў у тэатр. Але, мяркуйце самі. Між мілымі ўсмешкамі і ўхвальнымі кіўкамі галавы мне ва ўсіх рэдакцыях непразрыста намякалі, што тэатр — гэта добра, вядома, але яго месца зараз 128-е. І я разумела, што жахлівае забойства цэлай яўрэйскай сям'і (якому яшчэ і палітычную афарбоўку надавалі) ці статус і назва горада для калінінградцаў, а тытунёвыя талоны і дзяльба Каралеўскага замка для гродзенскіх жыхароў важней. Не своечасова яно, гэтае... мастацтва.

«Баляванне ў час чумы», — лезла ў галаву. Песімізм раз'ядаў, як іржа. Але, о цуд! Залы былі поўныя! Так, так, і на оперы, менавіта на оперы! Не верыце? Канечне, цяжка паверыць, калі ў Мінску на некаторыя спектаклі, якія ідуць даўно, ледзь сотня-другая гледачоў набіраецца.

Можа, прыходзілі калінінградцы ды гродзенцы аддыхацца, як на астравок адпачынку, ад знясільваючых крызісных беганняў? Можа, з-за таго, што сваіх стацыянарных музычных тэатраў не маюць? Можа, таму, што засталася хоць не ў галаве, а ў сэрцы інтуітыўная цяга да вечнага Мастацтва? (Дарэчы, не задумваліся, чаму на праекце грашовых знакаў новай Германіі партрэт вялікай піяністкі Клары Шуман?). Можа, журналісты выбіраюць выключна прысмажанае і падгарэлае, сцвярджаючы ў сувязі з мастацтвам: «не зразумее чытач (глядач, слухач), не цікава яму» таму толькі, што апісаць-распавесці пра кіламетровую чаргу ці набег на магазін лягчэй, бо ў рэцэнзіі і роздум патрэбны, і веды сякія-такія? Усе пытальнікі пакідаю, мяркуйце самі.

Такім чынам, гастролі суправаджала магільнае маўчанне мясцовых газет, што ў супастаўленні з перапоўненымі публікай заламі было па меншай меры дзіўным. Зрэшты, гэтак часта бывае і ў нашай сталічнай прэсе... А ці задумваўся хто пра тое, што творчасць у душах людзей, якія выходзяць зараз на сцэну, сядзяць у аркестравых ямах зараз? Чым кампенсаваць маўчанне і абыякавасць прэсы, чым залячыць дэпрэсію ад безупыннага пачуцця непатрэбнасці, несвоечасовасці?

Вось кажуць, хутчэй бы ўсе званні адмянілі. Добрая думка. Але — у тым грамадстве, дзе мастацтва ў любой яго праяве з'яўляецца неабходнасцю. Проста Калас. Ці проста Дамінга. Выдатна! Ці проста Наталля

*З далёкіх і блізкіх дарог*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

# УСЯГО ГАДЗІНА РОЗНІЦЫ...

## Бывай, Еўропа!

ЦІ БЫЛА цвярозая логіка ў тым, каб завезці нас амаль на тыдзень у курортнае мястэчка, а потым звесці наш адпачынак, лічы, на нішто ў мітусні сталічнага горада? Відаць, была. Бо, правёўшы другую палову падарожжа ў Будапешце, мы неўпрыкмет прайшлі курс псіхалагічнай прафілактыкі, без якой адаптацыя да «мясцовага часу» магла б для некага зацягнуцца, а ўсведамленне самога факта вяртання, барані Божа, скончыцца хваробай...

А калі без жартаў, дык у Будапешце мы ўспаміналі адпачынак на Балатоне, быццам хуткаплынны сон. Размясцілі нас цяпер ужо «як савецкіх». Атэль з гучным імем «Вена» аказаўся ўсё ж бліжэй да цэнтра венгерскай сталіцы, чым да сваёй цёзкі — сталіцы Аўстрыі, але мы адчулі сябе гасцямі, якіх паклалі спаць у сенцах. Што зробіш: хата перапоўненая... Праўда, і тут, у «сенцах», на шумным будайскім раздарожжы, у суседстве з АЗС, чыгункай, базарам ды сучасным жылым мікраёнам, побач з іншымі савецкімі тургрупамі і шафёрамі з міжнародных грузавых рэйсаў, мы ацанілі ўважлівасць гаспадароў. З намі зычліва віталася абслуга, у нас штодня былі чыстыя ручнікі і свежы кругляччок мініяцюрнага дарожнага мыла; шэф «Вены», усмешлівы таўсмацік у акулярах, абавязкова наведваўся ў нашу абедзенную залу, схіляўся да кожнага століка, жадаў прыемнага апетыту, цікавіўся, ці смачна. Гід і вадзіцель аўтобуса цярпліва тлумачылі па некалькі разоў мудрасці тамтэйшага транспарту. (Адзін талон на праезд у аўтобусе каштуе, па-нашаму, 50 кап., на трамвай, тралейбус, метро — 40. Так, у метро аналагічная сістэма аплаты, а закампасціраваны талон лічыцца сапраўдным у падземцы на працягу адной гадзіны).

Гойсаць да цэнтра сваім ходам, аднак, не ўсім давялося. Дый не было ні асаблівай патрэбы, ні часу: мы аказаліся заложнікамі складзенай кімсьці праграмы («Інтурыстам» — запэўнівала Жужа).

З'ездзілі на дзень у лукавіну Дуная — чароўныя мясціны, дзе рака прабіла сабе дарогу праз горы, а ўздоўж яе ўзніклі казачна-маляўнічыя гарадкі. Напрыклад, Сэнтэндрэ, каларытны горад-музей, з калідорамі крывых пакручастых вулак, з вузкімі крутымі каменнымі лесвіцамі. Ці Вышаград — з падобнаю да волатаўскай цацкі крэпасцю на вышыні гары. Ці старасвецкі Эстэргом — з агромністым саборам: у сярэдзіне яго прыгожы арган, уверсе каланада з аглядальнай пляцоўкай, а на баку сціплая мемарыяльная дошчачка ў памяць ахвяр 1956 года.

Праязджаючы ўздоўж капрызлівага рэчышча Дуная, мы маглі амаль рукой дацягнуцца да чэхаславацкага берага: акурат па рацэ праходзіць граніца дзвюх дзяржаў. Нягледзячы на яе адкрытасць, мы не змаглі наблізіцца нават да самой рэчкі, угаварыць гаспадароў хоць крыху адхіліцца ад маршрута. Нам далі зразумець, што ва ўмовах энергетычнага крызісу нельга траціць гаручае на капрызы турыстаў. Аднак праз нейкі час высветлілася, што і капрызы ва ўмовах недахвату паліва не крамола, калі за іх плацяць...

Мы былі тады на экскурсіі ў цэнтры Будапешта і ўжо чакалі на вуліцы свой «Ікарус», як раптам над галавою засакатаў верталёт, а потым яшчэ адзін... У вышыні закружылі белыя паперкі. Лістоўкі?! Адна за другой яны дасягалі зямлі, але, як наўмысна, кідаліся пасярод шумнай аўтастрады і ніяк не ішлі ў рукі. Азартнае жаданне рызыкнуць, але глянуць на «палітычную» паперчыну, вымусіла выхапіць адну такую амаль з-пад колаў хуткіх аўто...

Але якое ж было расчараванне! Лістоўка аказалася ўсяго толькі рэкламай бараў, кавярняў, паведамляла іх адрасы, кошт напіткаў і да т. п. Праз колькі хвілін паперкі ўжо ганяла па тратуары вулічным скразняком, але людзі не давалі сабе працы нахіліцца — ступалі раўнадушна, мусіць, ведалі, з якой нагоды расстаралася авіяцыя.

ЖЫВУЧЫ далекавата ад цэнтра, ды яшчэ па строгай схеме «сняданак — абед — вячэра», мы вымушаны былі нямала часу губляць на пераездах туды-сюды. Гэта замінала атрымаць паўнацэннае ўяўленне пра горад, скласці з паасобных мазаічных шкельцаў-уражанняў цэласны малюнак аблічча венгерскай сталіцы.

А ўражанняў не так і мала. Некалькі гадзін мы блукалі па брукаваных пляцах, манументальных лесвіцах і незлічоных пакоях аднаўленага каралеўскага палаца. (Нават зазірнулі ў колішняе сутарэнне, дзе цяпер абсталявана канцэртная зала; нават спадобіліся ўціснуцца ўсёй групай і пастаяць у турэмнай камеры!). Агледзелі плошчу Святой Тройцы, вежы Рыбацкага бастыёна, царкву Мацяша, ля муроў якой бурапеніла жыццё. Хваля за хваляй, накатвала плынь турыстаў, якія дружна шморгалі падэшвамі і круцілі галовамі. Гралі дуэтам юныя флейтысткі; старанны малады скрыпач, уткнуўшыся ў ноты, выводзіў віртуозную кадэнцыю. Старэнькі кларнетыст ціха дудзеў, прысеўшы пад клёнам, а воддаль, замілавана пазіраючы на яго, сядзела гэткая ж сівенькая і хударлявая спадарожніца жыцця... У адкрытых футаралах інструментаў танна пабліскавалі манеты, кінутыя рукою турыстаў. Тут жа заграблялі форынты рамеснікі, мастакі.

Наведалі мы і два музеі — нацыянальны ды этнаграфічны, якія ўражвалі сваімі архітэктурнымі вартасцямі, манументальнасцю, дыхтоўнасцю будаўніцтва. Што ж датычыць начыння...

У нацыянальным музеі, напрыклад, былі традыцыйныя для нашых краязнаўчых куток прыроды; археалагічныя знаходкі, прынамсі, упрыгожванні, форма якіх паўтаралася праз стагоддзі ў сучасных бранзалетах, завушніцах, брошках, пярсцёнках; антыкварная мэбля. Вядома, недарэчна рабіць тут нейкія параўнанні, скажам, з музеямі Ленінграда ці таго ж Львова, які мае ў гістарычным музеі куды больш уражлівую калекцыю даўніны. Кожны ж музей па-свойму адметны, калі мае штосьці ўнікальнае! А дзе яшчэ ў свеце, апроч Будапешта, пабачыш фартэпіяна, якое пэўны час належала Бетховену, а затым перайшло ва ўласнасць Ліста? Думаю, у многіх узнікала спакуса падсесці да гэтага мініяцюрнага інструмента, з пажоўклымі клавішамі, з драўлянымі педалямі — правая, як і мае быць, больш сцёртая і з невялікай расколінкай...

Гэты куточак, звязаны з імем выдатнага венгерскага музыканта, мы заўважылі ў музейнай зале самі, выпадкова. На ім і спынілася наша далучэнне да вялікай музычнай культуры краю, з якога выйшлі і Ф. Ліст, і І. Кальман, і З. Кодай, і Б. Бартак. Калі, вядома, не лічыць далучэннем да музычнай культуры Венгрыі слуханне цыганскага ансамбля пад час застолля ці спалучэнне дыскатэкі з рэстараннай трапезай.

Так, праграмаю не было прадугледжана наведванне філарманічнага канцэрта або вернісажа. Дорага? Але не думаю, каб білет на выстаўку каштаваў даражэй за пацешальную праграму ў начным бары «Савой», дзе нас частавалі строгімі дозамі шампанскага, кавы ды салёных палачак, а таксама песенькамі, фокусамі, вострасюжэтнымі танцамі з міні-стрыптызам.

Двойчы вазілі і на «святочныя» вячэры.

Так званы «фальклорны вечар» праходзіў у рэстаранчыку пад амаль адкрытым небам: доўгія сталы, схаваныя ад вуліцы высокім мураваным плотам, ад нябесных нечаканасцей засцерагаліся дыхтоўнымі саламянымі навесамі. Гралі — зусім як у Шыафоку — цыганы, спявалі і скакалі мадзьяры. У перапынках музыканты сядалі за асобны столік, на якім не было нічога, апроч высокіх зялёных бутэлек з цудоўным віном ды тонкіх шклянак. У нас на сталах таксама стаяла добрае віно, белае ды чырвонае, а яшчэ палінка, нацыянальная гарэлка з гаркава-міндалевым прысмакам «вішнёвай костачкі». А да ўсяго — гарачыя стравы і дэсерт. У гэткай «цёплай дружалюбнай атмасферы», пачуўшы рускую гамонку групы, што выходзіла з-за бліжняга стала, хтосьці з нашых замест вітання выгукнуў, як пароль: «Колькі вам грошай мянялі?» А пазней імкнуўся давесці ўсяму свету радком вядомай песні, што «Красная Армия всех сильней». Добра, хоць не даўмецца страляць хлебнымі шарыкамі ў японцаў ды аўстрыякаў за суседнім сталом.

(Да слова, «хлебнае бескультур'е» выявілася і ў нашай групе: трэ было бачыць, як касавурыліся афіцыянты на тых гурманаў, што да кожнай стравы бралі новую лусту хлеба і, так і недаеўшы ніводнай, кідалі ў талерку. Чаму ж не ведаюць яны, дзеці сялян ці ўчарашніх сялян, сапраўдную цану хлебу, як ведае яе патомны еўрапейскі гараджанін?).

Другая вячэра, з віном і дыскатэкай, называлася «развітальная». Не ведаю, праўда, хто з кім развітваўся: да ад'езду заставалася яшчэ больш як суткі, дый у падвальчыку рэстарана балявалі мы адны. А ў зале наверсе наш вадзіцель і яшчэ некалькі самотнікаў глядзелі тэлевізар. Мы не адразу ўцямілі, што гучала з экрана руская гаворка: мадзьяры з цікаўнасцю сачылі за рэпартажам савецкай праграмы «Время»...

У гасцінічным нумары мы таксама маглі глядзець ТБ. Галасы з радзімы да нас чамусьці не даляталі (антэна не тая?), але трансліраваліся ажно восем праграм: дзве венгерскія, «Еўраспорт» (англійская), «Супер» (англійская), аўстрыйская, «Музыка» (амерыканская), французская, люксембургская. Фільмы жахаў, вынаходлівая рэклама (чаго варты расповяд пра сябе маленькай шэрай... каструлькі!), спартыўныя гульні, музычныя відэакліпы,— з усяго гэтага мы ўпадабалі агляды навін *з прагнозам надвор'я па* ўсёй тэрыторыі Еўропы, у тым ліку і Савецкага Саюза, дзе на той час, у адрозненне ад Венгрыі, было мокра і холадна. (Між іншым, шкада, што на ЦТ няма завядзёнкі перадаваць аналагічную зводку надвор'я ў свеце; мала таго, бывае, што ў паведамленні гідраметцэнтра «скарачаюць» якуюсь са сваіх, саюзных рэспублік).

**(Заканчэнне. Пачатак у нумарах за 14.09, 21.09 і 5.10.90 г.)**

# Салігорскі сіндром

(Пачатак на стар. 4).

**іх уплывам усё было спушчана на тармазах, звялося да патрабавання забяспечыць рабочыя сталоўкі гарчыцай. Праўда, гарчыца на сталах з'явілася. На кароткі час...»**

**Я не стаў больш гаварыць з ім на гэтую тэму. Нарэшце, кожны жыве сваім розумам, кожны за ўсё плаціць сам. У рэшце рэшт, пазіцыя рабочага саюза не пярэчыць Канстытуцыі і ён мае права фармуляваць свой статус, сваю праграму, зыходзячы з уласнага разумення жыцця, яго праблем.**

Мне спадабалася ў Івана Вацлававіча яго ўменне мысліць маштабамі не толькі сваёй шахты, а ўсяго аб'яднання, рэспублікі, краіны. Яго непакоіць, што аб'яднанне за апошні год зменшыла здабычу калійнай солі на мільён тон, або амаль на 20 працэнтаў. Што цяжка стала прадаваць прадукцыю за мяжу. Што ў многіх краінах Усходняй Еўропы ўстаноўлены квоты на закупку ў нас мінеральных угнаенняў. Кажу яму, што чуў, быццам у порце Вентспілса, дзе з цягнікоў угнаенні перагружаюцца на караблі, узняліся мясцовыя «зялёныя», бо соль пры перагрузцы забруджвае навакольнае асяроддзе. «Гэта праўда,— пагадзіўся Іван Вацлававіч, — але ж ёсць у краіне аналагічныя прадпрыемствы, скажам, той жа «Уралкалій», прадукцыю якой з ахвотай купляюць за мяжой, бо яна не пыліць.

Дарэчы, у Салігорску вельмі складаная экалагічная абстаноўка. Хто быў там, бачыў велізныя тэрыконы адпрацаванай пароды, якія пыляць, засмечваюць наваколле. Ніхто не ведае, што рабіць з салёнымі азёрамі, якія ўтварыліся ад спуску вады з абагачальных фабрык, дзе ёю прамываюць руду. Гэта на зямлі. А ў паветры? «Беларуськалій» штогод праз свае коміны выпускае 24 тысячы тон шкодных рэчываў. «Усё гэта адлюстравана ў нашай праграме, — кажа Іван Вацлававіч.— Калі мы як след вырасцем, умацуемся, возьмем усё пад свой кантроль».

Асабліва абурае майго субяседніка падпарадкаванне «Беларуськалію» яго маскоўскаму «шэфу» — Усесаюзнай аграхімічнай асацыяцыі. Раней гэта было саюзнае міністэрства па вытворчасці мінеральных угнаенняў, потым, каб не назаляць людзям, яно змяніла шыльду — стала «Аграхімам», які ўзначаліў былы міністр. «Валюту, якую зарабляем мы,— кажа Юргевіч,— забірае і размяркоўвае «Аграхім», пакінуўшы нам мізэр...»

ГЭТАЯ ГАВОРКА адбылася ў нас пасля, наверсе, на «вялікай зямлі». А пакуль што я сяджу, скурчыўшыся, на нейкай трубе, назіраючы, як паволі-паволі набліжаецца камбайн. Нарэшце, прайшоўшы сцяну солі, якая ў святле цьмянага электрычнага святла адсвечвае ружовым, машына спынілася. Цяпер яе з рэйкамі, транспарцёрам, мацуючым прыстасаваннем пры дапамозе гідраўлікі адсунуць на некалькі метраў, каб даць камбайну магчымасць угрызціся ў новы пласт.

Юргевіч крычыць мне на вуха, што брыгадзір дазволіў яму суправаджаць госця, гэта значыць, мяне, наверх. Ідзём доўгім штрэкам, уздоўж якога высока насыпана зямля. Ліхтарык выхоплівае з цемры вузенькую сцяжынку, якой, здаецца, не будзе канца. Нарэшце, выходзім на магістральны штрэк, па якім рухаецца канвеер з пародай. Тут, у адным з бакавых калідораў, нас чакае машына накшталт невялічкага грузавіка, але з накрытым кузавам. На ім шахцёры дастаўляюцца ад ствала да месца працы. Доўга, мінут дваццаць — дваццаць пяць, едзем па пакручастым тунелі, такім вузкім, што, здаецца, машына вось-вось зачэпіць сценку. Цемру крыху рассоўвае святло фараў, і ўся гэтая абстаноўка мне, нязвыкламу чалавеку, чамусьці кладзецца на сэрца невыноснай тугой.

**Калі пад'язджаем да клеці, цікаўлюся, колькі мы праехалі. Аказваецца, каля васьмі кіламетраў. Час, які ідзе на пераадоленне гэтых кіламетраў (на шахцёрскім жаргоне—«капытных»), гарнякі і патрабавалі па прыкладзе сваіх калег у Варкуце і Кузбасе залічваць у рабочы. «Чаго яны хочуць?—з непрыхаванай прыкрасцю гаварыў мне Клімянкоў.—З мінулага года тыя «капытныя» ідуць ім у залік». Не сказаў толькі Аляксандр Тарасавіч, што зроблена гэта не па ініцыятыве мясцовых партыйцаў...**

**Чакаем хвілін пятнаццаць, пакуль спусціцца клець—яна ідзе строга па раскладзе. Падымаемся, і адразу кіруемся ў душ. Я ў свой ітэраўскі (спадобіўся, як госць, тут распрануцца), Іван Вацлававіч — у рабочы. Потым ён зойдзе па мяне і, агледзеўшыся наўкола, папросіць мяне падняцца ў душавую для радавых шахцёраў. Што і казаць, паміж ітэраўскім і гэтым памяшканнямі, як кажуць у Адэсе, «дзве вялікія розніцы». «У нас» куды чысцей, цяплей і ўтульней. І тут «саслоўнае» адрозненне?**

У вестыбюлі звяртаю ўвагу на насценную газету з адозвай забасткома. Чытаю. Пагражаюць забастоўкай шахцёры, якія працуюць на так званых тонкіх заляганнях солі і мала зарабляюць. Патрабаванні іх — спыніць патагонную сістэму працы, аплачваць яе па цвёрдых расцэнках — 50 капеек за тону руды, павялічыць у брыгадах колькасць машыністаў, забяспечыць тэхніку бяспекі і г. д. Рабочыя даюць адміністрацыі на роздум тыдзень. «Не пойдзе яна насустрач, пачнуць баставаць,— каменціруе Юргевіч.— Дарэчы, забастовачны камітэт тут узначальвае член каардынацыйнага савета рабочага саюза Салігорска Уладзімір Мамчур...»

Старая, яшчэ дарэвалюцыйная прымаўка «Один с сошкой, семеро с ложкой», як нельга лепей дапасуецца, на маю думку, да «Беларуськалію», дзе на дванаццаць тысяч рабочых прыпадае каля трох з паловай тысяч упраўленцаў. Трэба толькі пабачыць 18-павярховы адміністрацыйны будынак аб'яднання (у Салігорску яго чамусьці называюць пірамідай Хеопса), дзе сядзяць у кабінетах каля 600 чалавек, шматпавярховыя будынкі на ўсіх чатырох рудаўпраўленнях, каб вам стала зразумела, што да чаго...

У цэнтры Салігорска стаіць велізная скульптура шахцёра. Мажны хлопец у касцы, шырока расставіўшы рукі і ногі, невідушчымі вачамі ўглядаецца ўдалячынь. Відаць, па задуме скульптара, у светлую будучыню — камунізм.

Выехаўшы з Салігорска, я ўбачыў яшчэ аднаго цэментавага шахцёра. Ён стаяў на абшарпаным, даўно не фарбаваным п'едэстальчыку, і ў ранніх восеньскіх прыцемках фігура яго падалася мне па-сіроцы сумнай і адзінокай.

Так і засталіся ў памяці гэтыя дзве скульптурныя фігуры. Адна, нібы з учарашняга дня — хлуслівага і крывадушнага, другая—з сённяшняга, трывожнага цяжкага, але і даючага надзею на лепшае. Гэта ж вельмі важна — жыць надзеяй.

●

**Гэты артыкул быў ужо напісаны, калі з Салігорска прыйшла вестка аб сутачнай папераджальнай забастоўцы шахцёраў нізкіх лаваў 3-га і 4-га рудаўпраўленняў вытворчага аб'яднання «Беларуськалій».**

**Спадзяёмся, чытач знайшоў у артыкуле адказ на пытанне —што падштурхнула гарнякоў на масавае выступленне за свае эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя правы.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

**«Паважаныя таварышы... Звяртаецца да вас ваш зямляк, ураджэнец Ушацкага раёна на Віцебшчыне. Вырас я ў вёсцы Наваселле, прыкладна за 35 кіламетраў ад Лепеля.**

**У 1937 годзе, у лістападзе, у гэтай вёсцы быў арыштаваны мой бацька — калгаснік, які працаваў заатэхнікам. Разам з ім быў арыштаваны і яго брат, каваль. Імя бацькі — Антон Пятровіч Багаткевіч, дзядзькі — Апанас Пятровіч. Абодва былі рэабілітаваны ў 1959 годзе.**

**Пасля доўгіх пошукаў я атрымаў сёлета дакладныя звесткі пра лёс бацькі і яго брата: за «шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы» па прысуду «тройкі» яны былі расстраляны 16 снежня ў Оршы.**

**Значыцца, у вашым горадзе былі свае Курапаты. Калі рэдакцыя мае хоць якія звесткі пра месца, дзе расстрэльвалі і хавалі бязвінных, або зробіць спробу гэтае месца ўстанавіць, вельмі прашу паведаміць мне пра гэта. Можа быць, у гэтым дапамогуць чытачы газеты, хаця наўрад ці застаўся хто са сведкаў у жывых.**

**Але я не страчваю надзеі, што з вашай дапамогай знайду месца пахавання родных і змагу яшчэ прыехаць пакланіцца праху бацькі. Трэба спяшацца, бо мне самому ўжо 58 год. Пра сябе паведамляю: юрыст па адукацыі, член КПСС з 1958 года. Часова жыву і працую ў Мангольскай Народнай Рэспубліцы.**

**Віктар БАГАТКЕВІЧ.»**

# «Крумкачы» на Кабыляцкай гары

ГЭТЫ ЛІСТ прыйшоў у рэдакцыю аршанскай газеты «Ленінскі прызыў» і быў змешчаны на яе старонках у канцы мінулага года (№ 203 за 1989 год).

Так, не адны курапацкія сосны жалобна шумяць над пакутніцкімі магіламі, не толькі рэквіем магілёўскіх кар'ераў гучыць над Беларуссю. Ёсць і ў Оршы свае Курапаты. Ды хіба толькі ў Оршы? Нават па даваенных мерках Орша не належала да буйных гарадоў: на пачатак вайны тут жыло 65 тысяч чалавек. Аднак памыляецца Віктар Багаткевіч у адным — ёсць яшчэ жывыя сведкі, якія бачылі, ведаюць, помняць.

Лес Кабыляцкай гары, што ўзвышаецца над паўночнай ускраінай Оршы, карыстаецца ў мясцовых жыхароў нядобрай славай. Менавіта гэтае месца стала для Оршы тым, чым для Мінска сталі Курапаты. Першая хваля тэрору, узведзенага ў ранг дзяржаўнай палітыкі, пакінула на Кабыляцкіх узгорках свой першы крывавы ўраджай яшчэ ў самым пачатку трыццатых. Менавіта ў трыццатым годзе аршанская раённая газета «Змычка» паведамляла пра выязныя сесіі Вярхоўнага Суда ў Оршы. Абвінавачванні па 69 артыкуле крымінальнага кодэксу — эканамічная контррэвалюцыя, ці, прасцей кажучы, шкодніцтва. Да гэтага прыкладаліся пагромы «беларускага нацыянал-дэмакратызму» і разгортванне татальнай калектывізацыі. Наступствы апошняй перакрылі па сваіх памерах першыя дзве разам узятыя. Каго ж раскулачвалі? Паслухаем відавочцаў.

Марыя Карпаўна **Ляховіч**, жыхарка вёскі Лучыншчына Барздоўскага сельсавета:

**— Жылі мы тады на сваім хутары, мелі 11 гектараў зямлі, 2 кані, 2 каровы, ну і сям'я значная — 11 душ. Побач быў хутар Дзям'яна Харкевіча. У яго было 20 гектараў, 2 кані і трымаў ён пяць кароў. Дык ён жыў з гэтых кароў, бо здароўе ў яго было не надта. Каму трэба было на вяселле або хрэсьбіны, бралі заўсёды ў яго тварог ды смятану. Таму і сеяў ён у асноўным канюшыну. Была ў яго і жнейка.**

**Раз прыйшоў ён да бацькі: можа, твае сыны памогуць скасіць канюшыну, палягла, каб яе, жнейка не бярэ. Браты пайшлі, скасілі. Ён за гэта потым нам бочку агуркоў даў.**

**І што ты думаеш — раскулачылі! Калі іх забралі, паглядзела я: божа мой, божа, кашуля ў яго жонкі лапленая-пералапленая! Дзе ж тых кулакоў знайшлі?**

Соф'я Харытонаўна **Кандраценка**, жыхарка вёскі Бабінічы Панізоўскага сельсавета:

**— У нашай вёсцы тады раскулачылі двух гаспадароў — Шавельчанку Захара і Алесенку Якіма. У Алесенкі было 2 кані і 2 каровы, дык ён і спаў у суткі 3—4 гадзіны, а так усё юшыўся на гаспадарцы. А ў Шавельчанкі жыла дзяўчынка, дачка яго сястры. Тая нарадзіла яе ў дзеўках. Гэта цяпер ніхто не зважае на гэта, а тады — ого! Сястра яго потым замуж выйшла, а дзяўчынку пакінула ў брата. Так яна ў яго і жыла. Дык яму паставілі гэта ў віну, сказалі, што ён трымае ў сябе парабчанку, і раскулачылі. А ён жа быў бедны з бедных, у іх і елі не заўсёды дасыту.**

Уладзімір Мікалаевіч **Шкураценка**, жыхар вёскі Міцькаўшчына Андрэеўшчынскага сельсавета:

**— Нарадзіўся я ў вёсцы Солаўе, тут непадалёк. Жыў у нас тады такі Каплун Васіль. Было ў яго 3 каровы, кабыла белая і меў ён малатарню, машыну такую. Яе яшчэ бацька яго купіў некалі.**

**У трыццатым годзе пачалі арганізоўваць калгас. Былі тут у нас да гэтага дзве камуны, у Міцькаўшчыне і ў Чарнякове — адны гультаі сабраліся. Бывала, паедзе хто на базар ці так куды што павязуць, дык яны падпільнуюць ды адбяруць мяшок які збожжа, і так было. Таму асабліва ніхто ў калгас дужа не йшоў. Тады ноччу і забралі Каплуна як кулака, а ў яго не то 6, не то 7 дзяцей было.**

І гэтак было паўсюдна. Такія метады калектывізацыі выклікалі натуральны пратэст у сялян, і тут у дзеянне ўступала рэпрэсіўная машына АГПУ. Яна патрабавала новых ахвяр, і іх знаходзілі.

У. Шкураценка:

**— У Солаўі царква была. Дзячком быў Мамыка, а папа прозвішча было Розаў. Забралі іх у 32-ім годзе, а царкву скасавалі і крыжы з яе паздымалі.**

**З трыццатага года я працаваў у камяніцы — гэта такі кар'ер быў пад Кабыляцкай гарой, здабывалі там пясок ды гравій. Дык у 33-ім годзе адкапалі мы з пяску папа, відаць, не так даўно расстралялі яго тут. Зялёнае паліто на ім было, крыж. Што зрабілі? Укінулі ў вагон разам з пяском. Так і паехаў.**

У 35-ым годзе тут жа, у камяніцы, адкапаў расстралянага Фёдар Канстанцінавіч **Крузо**, жыхар вёскі Пашына Крапівенскага сельсавета. Па яго сведчанні, закапаны ён быў неглыбока, на паўметра.

Факт расстрэлаў у гэтым месцы пад Кабыляцкай гарой у першай палове трыццатых пацвердзіў і жыхар Оршы Віктар Андрэевіч **Баско**:

**— Жылі мы тады на паўночнай ускраіне Оршы, шмат хто з жыхароў трымалі кароў і нават коней. Мы, падлеткі, ганялі жывёлу пасвіць...**

**Памятаю, аднойчы загналі мы кароў пад Кабыляцкую гару. Там былі ў той час равы такія, парослыя хмызняком. Якраз на гэтым месцы цяпер «чармет» знаходзіцца.**

**Гляджу я, а зямля там уся пакапаная, як быццам бы шукалі што. Тут раптам з каровамі пачало тварыцца нешта няладнае, яны як звар'яцелі: вочы наліліся крывёй, з пашчаў сліна цячэ, равуць, зямлю капытамі і рагамі рыюць.**

**Тут да мяне дайшло, што тут закапаны расстраляныя людзі, ды, відаць, неглыбока, во каровы і пачулі свежую кроў. Перапалохаўшыся, мы кінуліся выганяць адтуль кароў. І больш на гэтае месца ніколі ўжо не ганялі. Тады я зразумеў, што за страляніна чулася вечарамі з гэтых мясцін...**

Не адна Кабыляцкая гара стала апошнім прытулкам ахвяр генацыду. Лес абапал шашы Орша—Магілёў, адразу за паўднёвай ускраінай горада, таксама быў месцам расстрэлаў.

Шмат хто яшчэ думае, што рэпрэсіі пачаліся з 1937 года. Але ж са сведчанняў вымалёўваецца іншая карціна: рэпрэсіі пачаліся з 1930 года і практычна не спыняліся да самай вайны. Цяжка ўспамінаць людзям тое, што не хочацца ўспамінаць, што хацелася б выкрасліць з памяці як цяжкі, пакутлівы сон.

Жыхар вёскі Андрэеўшчына Ігнат Фёдаравіч **Мядзвецкі** ўспамінае:

**— Тое, што папоў расстрэльвалі пад гарой, я добра помню, аб гэтым тады ўсе гаварылі. Хаця дакладна, у якім годзе гэта было, сказаць не магу. Недзе ў прамежак з трыццатага па трыццаць другі год. Але затое добра помню наступны выпадак.**

**Было гэта летам 36-га года. Я тады працаваць хадзіў у Воршу на цэментавы завод. К таму часу расстрэльвалі ўжо ў лесе на Кабыляцкай гары. Але рабілі тое вечарам ці ноччу. А гэта здарылася раніцай, таму мне і запомнілася.**

**Ідзём мы праз лес на працу, як заўсёды — мы заўжды так хадзілі, напраслкі. Раптам гляджу — конная міліцыя, увесь лес ачэплены. Сюды нельга, кажуць, давай у абход. Дык спознімся ж, кажу, на працу; тады з гэтым строга было. А міліцыянер мне: а вы скажыце там, каб пазванілі куды трэба, там ім пацвердзяць усё пра гэта.**

**Ладна, ідзём з мальцамі пад вечар дамоў. Вырашылі забегчы паглядзець туды, дзе расстрэльвалі. Гляджу — яма вялікая закапана, а па свежай зямлі насенне лёну раскідана: гэта, значыцца, каб месца гэтае хутчэй**

(Працяг на стар. 14—15).

(Пачатак на стар. 13).

зарастала. Мне выпадак гэты добра запомніўся...

Пётр Ціханавіч Каліноўскі, жыхар вёскі Міцькаўшчына Андрэеўшчынскага сельсавета:

— Нарадзіўся я ў вёсцы Пашына ў 1923 годзе, там і рос. У сярэдзіне трыццатых пачалі расстрэльваць на Кабыляцкай гары, з левага боку ад дарогі на Віцебск. Там якраз пачалі капаць камяні для будоўлі льнокамбіната. Месца парослае хмызняком, зручнае, во ў гэтых ямках іх і расстрэльвалі. Ну, а я з іншымі хлапчукамі бегаў туды збіраць стрэляныя гільзы. Гільзы былі доўгія такія, ад вінтовак.

Прывозілі звычайна апоўначы — у дванаццаць, у гадзіну, калі і раней. Чуў і стрэлы, і машыну бачыў, як выязджала. Бачыў, зразумела, і свежыя магілы. Даводзілася бачыць, як зямля на гэтых ямках дыхала, варушылася.

А цяпер гэтае месца забудавалі ўсё, МПМК-56 там і яшчэ нешта...

Наўрад ці здагадваюцца нашыя будаўнікі, дарожнікі, транспартнікі ды іншыя, на якім жахлівым месцы ім даводзіцца працаваць. Наўрад ці адчуваюць яны, як стогне ад болю ў іх пад нагамі зямля. І гэта ці не страшней нават за тое, што адбывалася на гэтым месцы паўстагоддзя таму.

Успамінае жыхарка Оршы Ніна Міхайлаўна Сядлецкая:

— Я і да вайны жыла на гэтай жа вуліцы Красіна. Усё добра помню, усё адбывалася на маіх вачах. Забіралі без разбору, і начальнікаў, і простых чыгуначнікаў, і стаханаўцаў, і нічым не вызначаўшыхся, грэблі без разбору.

Некалькі разоў была ля турмы на Смаленскай вуліцы. Што там тварылася! Народ стаяў ля варот і дзень і ноч, усё родныя арыштаваных.

Ад станцыі падганялі таварныя вагоны. Да іх з турмы выводзілі арыштаваных. Народ разганялі канвоіры з сабакамі. Я столькі сабак ніколі ў жыцці не бачыла. У падагнаныя вагоны заганялі арыштаваных, дзверы добра зачынялі і на кожным вагоне на дзвярах пісалі вялікімі літарамі: «ВРАГИ НАРОДА». Вагоны гэтыя тут жа адпраўлялі...

На станцыях да гэтых вагонаў людзі нават блізка не падыходзілі, ніхто не мог даць гэтым няшчасным людзям кавалак хлеба ці глыток вады. Мо і таму шмат хто з асуджаных нават не даязджаў да месцаў пазбаўлення волі. Іх невядомымі магіламі адзначаны ўсе маршруты ГУЛАГа.

У ОРШЫ другой паловы трыццатых часам пусцелі цэлыя вуліцы пасля чарговай хвалі абвастрэння «класавай барацьбы».

Адладжаная машына АГПУ, пазней пераўтвораная ў НКУС, працавала без збояў, перамолваючы нават вінцікі ўласнага механізму, якія па нейкіх прычынах перашкаджалі яму.

Гаўрыла Сяменавіч Кухарэнка, жыхар вёскі Андрэеўшчына:

— Ведаў я да вайны аднаго хлопца, звалі яго Мікалай Акулаў. Ён служыў у Ленінградзе, а недзе ў сярэдзіне трыццатых яго перавялі ў ГПУ у Воршу. Быў ён тут шафёрам на гэтых машынах, што вазілі людзей на расстрэл.

Ён колькі разоў распавядаў, як возіць людзей па начах на Кабыляцкую гару, і як там іх збіваюць, дык іншы раз аж плакаў. Казаў — людзі плачуць, равуць, што звяры, у машыне, калі іх вязеш. Не магу больш, кажа. Стаў прасіць, каб перавялі яго на іншую машыну. А, кажуць там, дык ты іх шкадуеш! Праз які час даведаўся, што і яго расстралялі...

Сведкай трагічных падзей у невялікім ляску абапал шашы Орша—Магілёў на паўднёвай ускраіне горада стаў і жыхар Оршы Георгій Харытонавіч Пішчалаў:

— Я тады жыў у вёсцы Бабінічы. Магу засведчыць, што ў лесе, які пачынаецца за цяперашнім лясгасам, ужо ў 1930 годзе пачалі расстрэльваць людзей. Расстрэльвалі па абодва бакі ад дарогі. У гэтым месцы тады былі спецыяльна зроблены тры з'езды, каб машыне было адразу з магістралі звярнуць у лес.

Па правым баку (калі ехаць з Оршы) расстрэльвалі святароў і, як іх тады звалі, кулакоў, Гэта, бачна, былі ўсё мясцовыя, аршанскія людзі, бо сваякі ўсё ж нейкім чынам даведваліся, дзе ляжаць іх родныя, і ставілі на магілы свечкі. А па левы бок свечак не было. Там былі брацкія магілы людзей, у якіх сваякоў блізка не было, чужых, прывезеных аднекуль з іншых мясцін.

І па левы бок, і па правы магілы пачыналіся недалёка ад шашы, метраў за сорак, іншыя за сто. Памеры магіл розныя, у сярэднім метры 4 на 2. Побач вёска Паддубцы, дык там ледзь не кожны вечар а 23-ай гадзіне з лесу чуліся стрэлы.

Летам трыццаць першага быў такі выпадак: ішоў гэты «чорны крумкач», везлі некага на расстрэл. А трэба сказаць, што машына ў тыя часы была рэдкасцю на вёсцы, і кожная звяртала на сябе ўвагу, асабліва дзяцей. І хлапчукі падчапіліся на заднюю падножку гэтай машыны, пакатацца ўздумалі. Як яны ўскоквалі, дык іх не заўважылі, а калі машына пачала заварочваць у лес і хлапчукі саскочылі з падножкі, іх заўважылі і адкрылі стралянне па іх. Думалі, мусіць, што прысуджаныя ўцякаюць.

А пасля магілы былі па ўсім гэтым лесе, дзе былі праезды для машын. Рабілі іх без усялякай сістэмы: то ў сярэдзіне, то ў пачатку, то на краі. Расстрэлы доўжыліся круглы год, нават зімой. Каля свежых магіл на ствалах дрэў, на лісці часта можна было ўбачыць распырсканую кроў і мазгі — стралялі, відаць, толькі ў галаву. Ямкі закопваліся абы-як, часам з зямлі тырчалі ногі ці рукі, над якімі віліся мухі. Цяжкае відовішча, проста немагчыма было глядзець на гэта. Я нават прыходзіў з рыдлёўкай і прысыпаў усё гэтае вар'яцтва зямлёй.

Аднойчы я нават стаў нявольным сведкай аднаго арышту. Гэта якраз было вясной трыццаць сёмага года, на вялікдзень.

Быў я тады яшчэ малады малец і, як усе хадзіў на танцы ў саўгас «Бабінічы». Аднаго разу ішлі мы адтуль у 5 гадзін раніцы. Раптам насустрач легкавая машына. У машыне трое ў чорнай форме. Легкавушка спынілася ля мяне, адзін, высунуўшыся, пытаецца:

— Дзе дырэктар саўгаса Бабашынскі жыве, ведаеш?

— Ведаю, — кажу.

— Садзіся, паедзеш з намі, пакажаш.

Пад'ехалі мы да дому, зайшлі. І тут я стаў сведкай сустрэчы двух старых баявых сяброў. Аказалася, што Бабашынскі і старшы з легкавушкі ваявалі разам пад Кахоўкай. Пачаліся ўспаміны.

Але хутка прагучала непазбежнае пытанне, і тут характар размовы рэзка змяніўся.

— Сядай! — загадалі дырэктару. Яго пасадзілі на табурэтку пасярод хаты і пачалі вобыск. Я даведаўся, што Бабашынскі быў афіцэрам царскай арміі, які перайшоў на бок рэвалюцыі. Бачыў канфіскаваныя бінокль і імянную шашку, якія ўручаў Бабашынскаму ў Першай коннай Будзённы.

Затым усе селі ў машыну, а мне на развітанне сказалі:

— Калі даведаемся, што камусьці пра тое, што бачыў і чуў, нешта сказаў — 10 год без суда і следства.

Бабашынскага пасля гэтага ўжо ніхто не бачыў больш, а праз месяц-два ў горадзе арыштавалі і яго жонку...

Яшчэ адно сведчанне, якое датычыць гэтага месца — лесу ля вёскі Паддубцы. Гаворыць згаданая ўжо мною С. Кандраценка:

— Вясной трыццаць сёмага года йшла я са сваячаніцай Марфай Пішчалавай у Воршу на базар. Выйшлі раненька з Бабініч, яшчэ цёмна было. Калі падыходзілі да горада, світала ўжо. Раптам бачым—сядзіць проста на дарозе чалавек. Падышлі да яго. Малады, у бяляне, увесь у зямлі і плача, дапамогі просіць. Плячо ў яго было прастрэлена. Вылез, бедалага, з ямкі, дзе яго закапалі разам з іншымі расстралянымі.

Ну, дапамаглі мы яму, чым змаглі, ісці далі. Пайшлі далей мы, адышліся трошкі, а насустрач машына гэтая. Глядзім — падышла яна да яго, з машыны выйшлі, пасадзілі яго ў машыну, і машына гэтая пайшла назад, у горад. Знаць, нехта ўжо паведаміў.

Пра лес гэты я ўжо ведала, яшчэ вясной трыццаць пятага быў такі выпадак.

Хадзілі мы з дваюраднай сястрой Ганнай Васкрасенскай у Воршу. Каб раней трапіць у горад, выйшлі ў 2 гадзіны ночы. Непадалёк ад горада сустрэлі машыну, «крумкач» з двума ліхтарамі на будцы. Яна йшла насустрач і непадалёк ад нас звярнула ў лес на левы бок.

Мы гэтае месца запомнілі. Недзе праз тыдзень ішлі з Аняй з горада. Пайшлі, кажу, зойдзем, паглядзім, куды машына з'язджала — там яшчэ з'езд з шашы добры быў.

Зайшлі мы ў лес. Бачым — сядзіць дзяўчынка маленькая, магілка свежая, сядзіць ля яе бабка старая. На магілцы стаіць стограмовая пляшачка гарэлкі, каша ячная ў місачцы — канун называецца.

Павіталіся мы. Бабка кажа:

— Садзіцеся, памяніце нябожчыка.

— А хто тут пахаваны? — пытаемся.

— Мой сыночак, дзетухны,— кажа старая,—святаром ён быў, расстралялі яго тут. А гэта мая ўнучка, — паказала яна на дзяўчынку.

Паглядзела я, а там не адна гэтая магілка. Навокал усюды зямля была ўскапаная. Іншыя магілы нават добра не закапаны, зямля на іх правалілася.

Бабка гэта незнаёмая была, хаця нашага святара з Бабініч таксама недзе ў гэты час забралі, Валюжынец яго прозвішча было. З царквы тады ж крыжы паздымалі, іконы пабілі і павыкідвалі. Некалькі бабы ўратавалі, забралі дамоў, а кнігі з царквы ўсе парвалі. Яны яшчэ доўга потым размяклыя пад дажджом ляжалі, пакуль дзеці не параскідвалі іх. А царкву неўзабаве разабралі і школу ў Панізоўі з яе пабудавалі.

# «КРУМКАЧЫ» на Кабыляцкай гары

АСОБНАЕ ўвагі заслугоўвае тое, якім чынам рыхтавалася глеба для даносчыкаў, гадаваліся паўлікі марозавы, паслугамі якіх так ахвотна карысталіся кампетэнтныя органы, намаганнямі якіх у карагод смерці траплялі новыя сотні ахвяр. Для мяне нечаканым адкрыццём стала тое, што грамадскую думку ў гэтым кірунку самым актыўным чынам фарміраваў мясцовы друк, прычым не так рэспубліканскі, колькі абласны і раённы. Яшчэ ў кастрычніку 1925 года аршанская акруговая газета «Камуністычны шлях» апублікавала невялічкую нататку «Укрыватели» (на рускай мове), якая па сутнасці з'яўляецца прымітыўным даносам. Падпісана яна не менш сімвалічна—«селькор № 3105». У далейшым «нумарныя» карэспандэнты сталі на старонках газеты звычайнай з'явай. А крыху пазней, калі жыццё чалавека стала каштаваць роўна столькі, колькі каштаваў аркуш паперы, на якім пісаўся данос, шмат якія рабселькоры з нумарам станавіліся сакрэтнымі супрацоўнікамі карнай машыны.

Спачатку гэтыя нататкі насілі характар крытычнага сігналу і мала чым адрозніваліся ад іншага крытычнага матэрыялу на старонцы. Але паступова тон іх станавіўся ўсё больш нецярпімы, з лёгкасцю перасягалася мяжа прыстойнасці, у іх усё часцей сустракаліся такія словы, як «класавы вораг», «абяззброіць», «выкрыць», «ізаляваць», «ачысціць», і да таго падобныя. Аўтары як быццам спаборнічалі між сабою ў рэзкасці і непрымірымасці да «выкрываемых» імі замаскіраваных ворагаў і сваёй рэвалюцыйнай пільнасці. А ў масавую свядомасць паступова ўкаранялася натуральнасць такога ладу жыцця. Чытаючы гэтыя нататкі і артыкулы, кожны савецкі чалавек мусіў усвядоміць, што і яму не толькі трэба, але і належыць рабіць гэтак жа ў адпаведных выпадках.

І трэба сказаць, што такая апрацоўка не праходзіла бясследна: чалавек губляўся ў нелагічнасці арыштаў і не ведаў, хто будзе наступны, ён паступова даходзіў да такога стану, што садзіўся і пісаў данос на суседа, мяркуючы такім чынам застрахавацца ад даносу на сябе. Напрыклад, давялося пачуць апавяд, як супрацоўнік аршанскай міліцыі (прозвішча па зразумелых прычынах я апускаю) заявіў на свайго суседа, з якім быў у дрэнных адносінах. Прычына: апярэдзіць суседа, каб самому не трапіць пад яго «заяву».

Ды цалкам бессістэмнымі арышты назваць нельга: забіралі ў першую чаргу тых, у каго нешта было ў мінулым, на каго меўся нейкі кампрамат. Ім магла стаць любая, на цяперашні погляд, нязначная рэч: дэталь біяграфіі, сваяцкая сувязь, сацыяльнае паходжанне.

Здаралася, родныя арыштаванага, маючы падазрэнне на пэўнага чалавека ў даносе, плацілі той жа манетай. Іншы раз гэта выклікала ланцуговую рэакцыю арыштаў і даводзіла амаль да поўнага вынішчэння «варожых кланаў». Але такія выпадкі былі рэдкія. Людзі ўсведамлялі недарэчнасць і жахлівасць таго, што адбывалася. А вось аматары даносаў былі. Адзін з такіх аматараў пэўны час працаваў разам з маёй маці — да вайны ён жыў у Віцебскім раёне. Аднаго разу ён прызнаўся, што па яго даносах забралі 17 чалавек. Ніводны з іх не вярнуўся.

Як ні дзіка гэта гучыць, але даводзілася чуць і такія тлумачэнні масавага знішчэння народа: Сталін рыхтаваўся да вайны, з расстраляных 20—30 чалавек хоць адзін ды быў сапраўдны вораг, і тым самым рэпрэсіі можна калі не апраўдаць, дык хоць неяк растлумачыць. Але вось сведчанні відавочцаў аб пачатку вайны...

У першыя ж дні вайны адбыўся вялікі налёт нямецкай авіяцыі на горад і чыгуначны вузел Оршы. У час налёту ў небе было аж светла ад ракет. Аб супрацьпаветранай абароне тады яшчэ і гаворкі не магло быць. Ракеты запускалі.. сапраўдныя шпіёны і дыверсанты фашысцкай разведкі, каб наводзіць самалёты на цэлі. Прамым пападаннем бомбаў быў знішчаны тады стратэгічны вайсковы вузел сувязі ў раёне станцыі Орша-Цэнтральная, будынак ваенкамата ў цэнтры горада, застрэлены ў пад'ездах сваіх дамоў ваенны камісар горада і іншыя афіцэры ваенкамата.

КАГО Ж ТАДЫ столькі год забівалі на Кабыляцкай гары? Адказ можа быць толькі адзін: структуры АГПУ (НКУС) аказаліся малаэфектыўнымі ў барацьбе з іншаземнымі разведкамі, іх дзейнасць была скіравана зусім у іншы бок.

Забіралі звычайна ноччу. Расказвае ўспомнены ўжо жыхар вёскі Міцькаўшчына У. Шкураценка:

— Ноччу 26 снежня 1937 года ў хату зайшлі трое ў вайсковай форме. Нічога не тлумачачы, загадалі бацьку збірацца і пачалі вобыск. Знайшлі схаваныя бацькавы зберажэнні, 250 рублёў — забралі. Вялікія грошы на тых часах, карова 50 рублёў каштавала. Забралі таксама ўсе фотакарткі, так што аб бацьку нічога і не засталося, унукі нават і не ведаюць, як дзед выглядае.

Маці раніцай пайшла ў гэтае ГПУ даведацца, за што мужыка забралі, а ёй там і кажуць: нікога нідзе гэтай ноччу яны не забіралі, так што ідзі, цётка.

Роўна праз 52 гады Уладзімір Мікалаевіч Шкураценка атрымаў даведку з абласной пракуратуры аб рэабілітацыі бацькі. З яе вынікае, што расстраляны быў 30 снежня, праз 4 дні пасля арышту. Ні канфіскаваных фотаздымкаў, ні грошай не вярнулі...

Забіралі і днём. Успамінае жыхар вёскі Пашына Крапівенскага сельсавета Федар Канстанцінавіч Крузо:

— Добра помню, як у трыццаць сёмым забралі Івана Іванавіча Слуцкага. Прыехалі днём на машыне, у форме, маладыя такія. Жонка яго стала плакаць: куды вы яго цягнеце, ён жа стары ўжо, хутка сам памрэ. А яны смяюцца — папрасіў падвезці да горада, кажуць. Як павезлі,дык да сёння няма.

А во другога пашынца, Паруса Мартына Іванавіча, у трыццаць восьмым забралі з працы проста. Ён тады ў кар'еры працаваў, пясок яны грузілі. Ды ў нас яшчэ што, во ў Шуйгайлаве аж чацвярых тады забралі...

Трымаю ў руках дакумент аб рэабілітацыі, які перадаў мне сын загінуўшага — Васіль Мартынавіч Парус. Вось што ўяўляе з сябе гэта папера.

«Прокуратура Витебской области.

Справка 13.12.89 № 13/4293-89 о реабилитации.

Парус Мартин Иванович, 1893 года рождения, репрессированный по решению внесудебного органа от 15.06.38, на основании статьи I Указа Президиума Верховного Совета СССР от 16 января 1989 года «О дополнительных мерах по восстановлению справедливости в отношении жертв репрессий, имевших место в период 30—40-х и начала 50-х годов», реабилитирован.

Парус Мартин Иванович до ареста 12.04.38 проживал в д. Пашино Оршанского района Витебской области и был рабочим Оршанского камнедробильного завода.

Прокурор области государственный советник юстиции 3 класса

Г. А. МОЛОДЦОВ».

— Пайшоў я з гэтай паперай да юрыстаў, — гаворыць Васіль Мартынавіч, — што мне з ёй рабіць, пытаю. А мне і гавораць: звяртайся, маўляў, да адміністрацыі таго прадпрыемства, дзе ён працаваў да арышту, яны вам абавязаны выплаціць кампенсацыю. А куды мне звяртацца цяпер, калі гэты камнедрабільны завод ужо з паўсотні гадоў як не існуе?

Ёсць некалькі сведчанняў, якія дапамагаюць уявіць, як гэта рабілася. Гаворыць Г. Пішчалаў:

**— У пачатку шасцідзесятых гадоў я працаваў на будаўніцтве, дзе і пазнаёміўся з Ціханам Цітавічам Казімірскім. Неяк у размове высветлілася, што ў трыццатыя гады ён працаваў у цэнтральнай турме забеспячэнцам. Ён пацвердзіў, што быў такі выпадак на магілёўскай шашы, калі з магілы вылез расстраляны чалавек. Ён казаў, што яго не сталі расстрэльваць яшчэ, а некуды адправілі. Але я так думаю, што адправілі яго не далей Кабыляцкае гары. Казімірскі паведаў яшчэ пра тое, што часам асуджаных расстрэльвалі проста ў турме, у падвалах, затым трупы кідалі ў машыны і вывозілі. Па яго словах, турма абслугоўвала ўсю тагачасную Аршанскую акругу... На жаль, Казімірскага няма ўжо ў жывых...**

Жыхарка Оршы Акуліна Міхайлаўна Сіўцова распавяла проста надзвычайны выпадак, які адбыўся ля станцыі Орша-Паўночная, на беразе невялікай балоціны:

**— Сама я гэтага не бачыла, сведкай была мая знаёмая, былая манашка жаночага Успенскага Куцеінскага манастыра Агаф'я, з яе слоў я і пераказваю. Тады манастыр гэты быў ужо зачынены, манашак павыганялі адтуль, і Агаф'я жыла ў нашым раёне Гразілаўка (тады называлася Гразіўка).**

**На станцыю Паўночная прыгналі таварны цягнік з людзьмі. Ноччу іх выпусцілі з вагонаў, пастроілі і падагналі да берага балоціны побач са станцыяй. На беразе балоціны ўвесь гэты натоўп расстралялі з кулямётаў. Тут жа іх і закапалі.**

**На наступную ноч Агаф'я хадзіла на гэтае страшнае месца і нават раскапала на адной ямцы зямлю. Людзі, якіх яна адкапала, былі ў чорных расах, святары або манахі нейкія.**

**З таго часу я, Агаф'я і яшчэ дзве жанчыны кожны год на вялікдзень хадзілі туды, адпявалі паніхіду і клалі яйкі на магілы.**

**Агаф'я памёрла гады тры таму, пражыўшы 105 гадоў. Памёрлі і астатнія мае таваркі, цяпер адна я пра гэта і ведаю...**

Куцеінскі Успенскі манастыр быў скасаваны ў сярэдзіне дваццатых гадоў, але манашкі працягвалі жыць пры дзіцячым прытулку, створаным у былым манастыры, і толькі ў сярэдзіне трыццатых іх выгналі адтуль канчаткова. Значыцца, прыгаданая падзея адбылася ў другой палове трыццатых гадоў, у разгар рэпрэсій. Зараз на гэтым месцы вуліца прыватнай забудовы. Ці здагадваліся жыхары 4-га Першамайскага завулка, што за косці трапляліся ім часам на прысядзібных участках?

Гаворыць жыхар вёскі Андрэеўшчына, ляснік Валянцін Міхайлавіч **Паўлоўскі:**

**— З пачатку шасцідзесятых у нашым Дняпроўскім лясніцтве пачаў працаваць ляснічым Іван Сямёнавіч Барысенка. Аднаго разу, абыходзячы лес каля Андрэеўшчыны, ён пачаў мне паказваць месцы, дзе расстрэльвалі людзей у трыццатыя гады і да самага пачатку вайны. Ну, а неяк за чаркай расказаў мне, што ў сярэдзіне пяцідзесятых ён, які быў тады ў чыне маёра КДБ, у ліку іншых супрацоўнікаў, звязаных з рэпрэсіямі перыяду культу асобы, быў звольнены з органаў. Якім жа чынам, пытаю, ты быў звязаны? А ён і кажа, што да вайны тут, у Оршы, вазіў расстрэльваць людзей. У яго распараджэнні быў «чорны крумкач» і шафёр. Прыходзіў ён ноччу, браў два пісталеты, насыпаў кішэню патронаў. Машыну падганялі да дзвярэй Саборнага храма і загружалі ў будку 6 чалавек (Саборны храм — былы касцёл трынітарыяў, помнік архітэктуры XVIII стагоддзя. З-за перагружанасці цэнтральнай турмы з 1937 года ў Саборным храме пачалі ўтрымліваць арыштаваных. Знаходзіўся на вуліцы Камсамольскай, знесены ў 1958—61 гг. па распараджэнні гарадскіх улад. — Ю. К.). Унутры будка «чорнага крумкача» была падзелена на 6 асобных аддзяленняў, у кожным памяшчаўся адзін чалавек. Такім чынам, за адзін рэйс забіралі 6 чалавек. У Барысенкі была норма — за ноч зрабіць два рэйсы, гэта значыць, расстраляць 12 чалавек. Загад адзін: жывым нікога не прывозіць.**

**Прыязджалі мы, расказваў Барысенка, у лес на Кабыляцкай гары, машыну ставілі так, каб фары высвечвалі выкапаную яму. Выводзілі па адным. На кожнага ішло 2-3 патроны. Звычайна я страляў у патыліцу і, калі чалавек валіўся, рабіў яшчэ адзін стрэл у скроню. Першага выводзілі лёгка: сам ішоў. А з астатнімі было цяжэй. Пачуўшы стрэлы і ўсё зразумеўшы, яны пачыналі крычаць, адбівацца і ўсяляк супраціўляцца, не жадаючы выходзіць з машыны. На гэты выпадак у нас была прызапашана доўгая такая жалезіна з крукам на канцы, нешта накшталт багра. Вось гэтым крукам выцягвалі чарговую ахвяру з машыны і забівалі. Іншы раз, гаварыў ён, трапляліся асабліва дужыя і ўпартыя, тады прыходзілася прыстрэльваць проста ў машыне...**

**Барысенка яшчэ казаў, што пасля гэтага адчуваў сябе нармальна, а шафёр яго дужа перажываў, есці не мог.**

**Такім чынам, у начную Барысенка адпрацаваў каля года, а затым быў пераведзены на іншую пасаду. Гаварыць аб гэтым ён не любіў, і калі гаварыў, то толькі за чаркай. Памёр ён у 1973 годзе...**

Даставернасць перададзенай Паўлоўскім інфармацыі не выклікае сумненняў. Амаль усе ўказаныя месцы расстрэлаў знайшлі тое ці іншае пацвярджэнне. Адно з іх — лагчына ля турыстычнага палатачнага гарадка. Высветлілася, што ў мясцовых старажылаў гэтая лагчына мае надзвычай рэдкую для лясных мясцін назву — Стрэльбішча. Другое нечакана знайшло сваё дакументальнае пацвярджэнне. Лепш за ўсё іншае гэты дакумент скажа сам за сябе.

**«АКТ**

**20 сентября 1982 года г. Орша**

**Комиссия представителей советских и административных органов в составе: ответственного секретаря Оршанского районного отделения Белорусского общества охраны памятников истории и культуры Пищалова Г. Х., прокурора тов. Андрейковой Г. Н., врача судебно-врачебной экспертизы тов. Лосева В. А., старшего лейтенанта Оршанского военкомата тов. Ризоватова В. Д., старшего лейтенанта милиции тов. Лучина Н. С. сего числа произвели осмотр останков захороненных людей, обнаруженных при строительстве подъездной железнодорожной ветки к заводу ЖБИ межколхозстроя через лесной массив южнее деревни Андреевщина.**

**Осмотром на месте обнаруженных местными жителями останков захороненных людей установлено, что захоронение произведено примерно в 1937-1939 г. г. в глухом лесном массиве в братской могиле пятьдесят человек. Время захоронения подтверждается тем, что хорошо сохранившаяся обувь, состоящая из хромовых сапог с калошами, мало поношенных туфлей с калошами и другой модельной обуви, имела хорошо сохранившиеся фабричные штампы московской фабрики «Красный треугольник» и ленинградской фабрики резиновых изделий с хорошо видимым годом изготовления — 1936-37 гг. Все пятьдесят человеческих черепов имеют пулевое отверстие в лобной части и хорошо сохранились.**

**Опросив старожилов дер. Андреевщина и близлежащих деревень с целью выяснения возможности расстрела советских людей немецко-фашистскими захватчиками в период Великой Отечественной войны 1941—1945 г. г. было установлено, что расстрелов в период оккупации Белоруссии немцы в этих местах не производили. Как правило, немцы расстрелы производили открыто, а не в глухих местах, из автоматического оружия без повреждения костей головы. Все жители подтверждают, что расстрелы советских людей производились в 1937-38 г г. органами НКВД. В этот период лес так называемой «Кобыляцкой горы» был местом массовых расстрелов ни в чем не повинных советских людей, так же, как лесной массив по Могилевскому шоссе у дер. Поддубцы.**

**Комиссия считает, что захоронение произведено в 1937-40 гг. репатриированных советских людей. Останки следует захоронить на месте их обнаружения. Для этой цели и рытья могилы выделить людей директору завода ЖБИ Облмежколхозстрой тов. Закревскому И. М.**

**Комиссия: Пищалов Г.Х.; Андрейкова Г. Н.; Лосев В. А.; Ризоватов В. Д.; Лучина Н. С.»**

Праўда, трэба сказаць, што ў паўднёва - заходняй частцы лесу ёсць і брацкая магіла, дзе пахаваны ўдзельнікі партыйна - патрыятычнага падполля, расстраляныя немцамі ў час акупацыі. Тут 7—8 лістапада 1942 года адбыліся масавыя расстрэлы вязняў аршанскай турмы СД. Гэта засведчыла ўжо знаёмая нам А. Сіўцова, удзельніца партызанскага руху на Аршаншчыне, сувязная атрада «Знішчальнік» першай Заслонаўскай брыгады. Восенню сорак другога яна была арыштавана і толькі цудам не была расстраляна разам з астатнімі вязнямі турмы. Пра гэтую магілу добра ведаў летапісец і даследчык аршанскага падполля Я. Крашаніннікаў. Што перашкодзіла ўшанаваць гэтае месца гібелі падпольшчыкаў? Тлумачэнне тут можа быць толькі адно: суседства гэтае магілы з магіламі ахвяр ГУЛАГа, на адно згадванне якога накладзена строгае табу.

Хацелася б сказаць яшчэ вось аб чым. Размаўляючы са сведкамі тых далёкіх ужо падзей, колькі разоў даводзілася бачыць, як у немаладых, пажыўшых і пабачыўшых шмат чаго людзей пры адным слове «Кабыляцкая гара», «расстрэлы» бялеюць твары і шклянеюць вочы. Многія наогул адмаўляліся аб гэтым гаварыць. Страх, непазбыўны, падсвядомы страх, жыве ў тых, хто хоць аднойчы сутыкнуўся з гэтым, убачыў і перажыў. І гэты страх, гэтае рэха Кабыляцкай гары будзе жыць у людзях да скону. Адзін васьмідзесяцігадовы селянін так проста і сказаў:

— Ты, хлопец, там дзе-небудзь нешта напішаш, а нам потым капец.

Людзі не вераць, што ўсё гэта канула ў нябыт, што ўсё прайшло беззваротна і заўтра зноў не паўторыцца. Рэха Кабыляцкай гары я бачу ў пасіўнасці людзей, іх нявер'і ў тое, што хоць нешта можна змяніць да лепшага. Курапацкі сіндром паразіў увесь наш народ, і складанасць нашага сённяшняга стану — яскравае гэтаму пацвярджэнне.

Бурныя падзеі апошняга часу зацянілі тэму сталіншчыны. Аднак карані сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы менавіта там, у трыццатых. Народ маўчыць. Нельга ж лічыць якіх-небудзь 50—70 тысяч на стадыёне сапраўдным голасам народа, давайце цвяроза глядзець на рэчы. І нельга сказаць што людзі нічога не бачаць, не разумеюць.

Першы камуніст раёна рвецца да дэпутацкага мандата, парушаючы ўсе пісаныя і няпісаныя законы. Людзі бачаць гэта і маўчаць. А калі і звяртаюцца куды, дык не ў раённую і нават не ў цэнтральную выбарчую камісію, не, а да арэхаўскага святара Віктара Радамысльскага, спадзеючыся толькі на яго. Ці не чуецца тут рэха Кабыляцкай гары?

Да таго часу, пакуль пра злачынствы той пары не будзе сказана ўсё, да таго часу, пакуль архівы КДБ паўвяковай даўнасці будуць за сямю замкамі, пакуль не будуць названы ўсе імёны і лічбы ахвяр сталінскага фашызму, да той пары будзе існаваць небяспека паўтарэння гэтага.

А складваецца ўражанне, што праўды пра Кабыляцкую гару ўпарта не жадаюць ведаць. Створаная пры Аршанскім гарвыканкоме камісія па рэабілітацыі ахвяр рэпрэсій абмяжоўваецца паўмерамі. Але нават пры гэтым, абапіраючыся на ўказаны акт 1982 года, яна робіць запыт у абласную пракуратуру з просьбай перадаць у яе распараджэнне матэрыялы аб рэпрэсіях у Оршы. І, як і восем год назад, атрымлівае адпіску, дзе паведамляецца, што пракуратура такіх матэрыялаў не мае. Тая самая пракуратура, якая выдае дакументы аб рэабілітацыі рэпрэсіраваных. Дзіўна.

У канцы кастрычніка мінулага года моладзь горада, сваякі рэпрэсіраваных прыйшлі на Кабыляцкую гару, каб ускласці кветкі на месцы расстрэлаў, ушанаваць памяць загінуўшых. І што яны ўбачылі? Узмоцненыя нарады міліцыі з машынамі. Некаму спатрэбілася ствараць штучнае напружанне, канфрантацыю, запалохаць людзей. Каму?

У апошні час у савецкія органы горада звяртаюцца жыхары Прыбалтыкі. У даведках аб рэабілітацыі іх родных указваецца месца расстрэлу — Орша. Яны прыязджаюць у горад з надзеяй пакланіцца праху бацькоў, узяць зямлю з іх магілы. Што ім могуць паказаць? Нават астанкі тых, каго знайшлі ў 1982 годзе, не перазахаваны, а перазакапаны, і месца гэтае зараз знайсці не так проста. Не можа быць поўнай рэабілітацыі загінуўшых да той пары, пакуль не вызначаны ўсе месцы іх пахаванняў. Не можа быць рэабілітацыі, пакуль косці гэтых няшчасных выварочваюць экскаватары і бульдозеры, і ў літаральным сэнсе слова на іх касцях будуюцца дамы і цэхі. Калі мы — людзі, то такога быць не павінна. Зрэшты, відавочна, што неабходна стварыць кампетэнтную камісію па вызначэнні месц расстрэлаў і пахаванняў ахвяр фашызму ўсіх кшталтаў, стварэнні там помнікаў і памятных знакаў. А, магчыма, і па ўзбуджэнні крымінальнай справы па факту масавых забойстваў. Падставы для гэтага ёсць.

**Юрый КОПЦІК,**

**гісторык-краязнаўца.**

г. Орша.

*Рэпліка*

# Пра два языкі ў роце...

**Выйшлі два нумары «Народнай газеты» — органа Вярхоўнага Савета БССР. Нумары пакуль што пробныя, так бы мовіць, пошукавыя, разведвальныя. Нешта ў іх добра, сёе-тое нават удала, нешта не надта добра, а то і блага — і гэта натуральна, інакш і быць не магло, бо гэта ўсяго толькі, паўторым, першыя крокі маладога рэдакцыйнага калектыву. Гаворка не пра гэта. Гаворка пра адну дзіўную, неўразумелую, ганебную тэндэнцыю, якая апошнім часам заяўляе аб сабе ў нас, у рэспубліцы, усё больш і больш...**

**Памятаюцца тыя дні, калі на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі ўпершыню прагучалі словы пра «Народную газету». Тады ніводзін беларус, які хоць крышачку ўсведамляе сябе беларусам, ні на хвіліну не ўсумніўся ў тым, што выданне гэтае будзе выходзіць на беларускай мове. А як жа інакш? На гэтай зямлі жыве беларускі народ (разам з іншымі народамі, вядома). Вярхоўны Савет, які збіраецца выдаваць газету, — вышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларусі. Дык хіба магло ў каго ўзнікнуць сумненне адносна мовы выдання? «Народная газета», калі яна ўжо носіць такую назву, калі яна хоча апраўдваць гэтую назву, павінна выходзіць на роднай мове народа гэтай зямлі, на дзяржаўнай мове гэтай рэспублікі.**

**І раптам — гром з яснага неба! У каталозе рэспубліканскіх выданняў на 1991 год пасля назвы «Народная газета» ў дужках было пазначана: «На русском языке». Чытачы недаўмявалі. Прынамсі, «ЛіМ» атрымаў не адзін і не два, а дзесяткі лістоў, поўных абурэння гэтым, як пісалі чытачы, «самым што ні ёсць здзекам з усіх нас і з нашай мовы, асабліва пасля таго, як яна набыла статус дзяржаўнай у рэспубліцы».**

**Пазней з'явілася ў друку растлумачэнне, што гэта — памылка, што газета будзе выходзіць на дзвюх мовах — беларускай і рускай.**

**Ах, гэтая палачка-выручалачка па імені двухмоўе! Мы, грэшныя, думалі, што хрушчоўска-брэжнеўская тэорыя двух языкоў у роце сканала, ажно — не! Гэта на нейкі час яе палкія прыхільнікі і прапаведнікі прыціхлі былі. Маўляў, так і быць, пацешцеся, браткі-беларусы, пакрычыце, выпусціце пару, а на большае не разлічвайце. Як было, так і будзе. А калі будзеце ўпарціцца, калі будзеце насіцца са сваёй дзяржаўнасцю і суверэнітэтам, дык не будзеце мець і таго, што маеце.**

**Дык і не маем. У год абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай робяцца ў рэспубліцы рэчы настолькі дзіўныя, што і розуму не дабраць. Дзяржаўная праграма ажыццяўлення Закона аб мовах у БССР прадугледжвае перавесці «Сельскую газету», «Гродненскую правду», брэсцкую «Зарю», «Сельское хозяйство Белоруссии» на беларускую мову, а робіцца нешта зусім адваротнае. Абвешчана, што з наступнага года часопіс «Бытавое абслугоўванне насельніцтва Беларусі» ператвараецца ў рускамоўны часопіс «Салон». Што «Сельское хозяйство Белоруссии» стане таксама рускамоўным часопісам «Хозяин». Што тыднёвік «7 дзён», які выдае БЕЛТА, будзе выходзіць толькі на рускай мове. «Гродненская правда» і «Заря» ў Брэсце так і застаюцца рускамоўнымі, а вось старэйшая наша абласная газета «Віцебскі рабочы» раптам загаварыла-закартавіла на дзвюх мовах, як і многія раённыя, яшчэ ўчора беларускамоўныя газеты...**

**Але вернемся да «Народнай газеты», да яе двухмоўя. Сёй-той даказвае, што ў нашай сітуацыі адзінае выйсце — выдаваць газету менавіта вось так, на трасянцы. Пагадзіцца з гэтым цяжка. Моўная палітыка павінна быць дзяржаўнай палітыкай. І хіба не абавязаны, не павінны праводзіць яе кіраўнікі выдання? А між тым...**

**Вось толькі адзін прыклад. Дробны, на першы погляд.**

**У другім нумары «Народнай газеты» змешчаны «фельетон на 1-ю старонку». Напісаў яго Іван Макаловіч. Чым ён, фельетон, затрымаў нашу ўвагу? Найперш не сваімі літаратурнымі, мастацкімі якасцямі. Найперш — мовай. Надрукаваны, а значыць і напісаны фельетон на рускай мове. Мімволі падумалася вось аб чым. Аўтар фельетона не толькі першы намеснік галоўнага рэдактара «Народнай газеты». У дадатак ён яшчэ і старшыня Саюза журналістаў Беларусі. У дадатак ён яшчэ і былы рэдактар «Звязды», і былы старшыня Дзяржкамвыда (цяперашняга Дзяржкамдруку) БССР. Выбар мовы фельетона — гэта выпадковасць ці знарочыстасць, свядомы крок? Сапраўды, як тут не ўсклікнуць: што ж гэта робіцца ў нашай каробачцы?!**

**Два языкі ў роце замінаюць. Ой, замінаюць! ЛІМАВЕЦ.**

# Ля вытокаў

## Пра першы артыкул на беларускай мове, прысвечаны К. Каліноўскаму

**Першая публікацыя, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму, з'явілася праз дзень пасля яго пакарання ў віленскай газеце «Виленский вестник» 12 (24) сакавіка 1864 года. Яна была на рускай мове.**

Праз тыдзень паведамленне аб пакаранні было надрукавана ў кракаўскай газеце «Хвіля». Так з'явілася першая публікацыя пра Каліноўскага на польскай мове.

З таго часу так і павялося, што пра Каліноўскага пісалася ці на рускай, ці на польскай мове. І разглядаўся ён рускамоўнымі ці польскамоўнымі аўтарамі, якія належалі да розных кірункаў дваранскай гістарыяграфіі, як **польскі рэвалюцыянер**. Так працягвалася дзесяткі гадоў.

Але павінна ж была з'явіцца калі-небудзь і публікацыя пра Кастуся Каліноўскага на яго роднай мове, у якой бы зусім па-іншаму была б пераасэнсавана асоба і дзейнасць беларускага рэвалюцыянера, факты яго біяграфіі, яго духоўная спадчына.

Справа выглядала зусім не так проста, як можа камунебудзь падацца на першы погляд. Трэба было не пераказаць тое, што з'яўлялася, напрыклад, у польскім друку, а паглядзець на Каліноўскага з іншага пункту гледжання, іншымі вачыма — паказаць яго як ідэолага беларускага сялянства, змагара за духоўнае адраджэнне беларускай нацыі, за ідэю беларускай дзяржаўнасці і дзяржаўны суверэнітэт.

Для выканання такой нялростай задачы патрабаваўся, безумоўна, здольны, сумленны і шчыра адданы чалавек з цвярозай галавой і самастойным мысленнем. Такі чалавек з'явіўся ў 1909 годзе ў рэдакцыі «Нашай Нівы», дзе ўжо сабралася шмат таленавітай беларускай моладзі, і распачаў плённую працу на ніве беларускай гісторыі. Гэтым чалавекам быў Вацлаў Ластоўскі.

У 1910 годзе «з друкарні пана Марціна Кухты» выходзіць у свет «Кароткая гісторыя Беларусі» В. Ластоўскага, якая перад гэтым друкавалася на старонках «Нашай Нівы» і выклікала станоўчыя водгукі чытачоў і саміх нашаніўцаў. Янка Купала, напрыклад, прысвяціў аўтару «Кароткай гісторыі Беларусі» верш «Дудар», які надрукаваў у «Нашай Ніве». На жаль, у «Кароткай гісторыі» не знайшлося месца для Кастуся Каліноўскага, аналізу яго рэвалюцыйнай дзейнасці і светапогляду. І зусім не таму, што ў яе аўтара не было чаго сказаць пра беларускага рэвалюцыянера. Проста такіх непахісных змагароў супраць самадзяржаўя, як К. Каліноўскі, а таксама паўстанне 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве ў той час лепш было абходзіць маўчаннем. І без таго аўтара «Кароткай гісторыі» абвінавацілі ў тым, што не змясціў у сваёй працы партрэтаў цара Аляксандра II, Мураўёва-вешальніка, мітрапаліта Іосіфа Сямашкі.

Але ўпартая, напружаная праца па асэнсаванні такой вялікай нацыянальнай з'явы, як Кастусь Каліноўскі, нягледзячы ні на што, В. Ластоўскім вялася пастаянна. Даследчык адшукваў рэдкія, каштоўныя першакрыніцы, рабіў з іх копіі, збіраў патрэбныя матэрыялы, спадзеючыся, што калі-небудзь прыйдзе час надрукаваць іх.

Апрача рукапісных першакрыніц В. Ластоўскаму быў добра вядомы шэраг прац і ўспамінаў пра паўстанне 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве — В. Ф. Ратча, Н. В. Гогеля, Д. П. Бранцава, А. Н. Мосалава, Б. Ліманоўскага, Ф. Ражанскага і інш.

15 лютага 1916 года ў віленскай беларускай газеце «Гоман» з'явіўся першы артыкул пра Кастуся Каліноўскага на беларускай мове. Артыкул меў загаловак «Памяці Справядлівага» і быў падпісаны адным з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага — «Сваяк». (Не трэба блытаць з псеўданімам беларускага паэта Канстанціна Стаповіча, які пісаў пад псеўданімам «Казімір Сваяк»). Як і «Мужыцкая Праўда», першы артыкул пра К. Каліноўскага быў надрукаваны лацінкай.

У 1919 годзе гэты артыкул пра Каліноўскага быў поўнасцю перадрукаваны (таксама лацінкай) у «Беларускім календары «Сваяк» на 1919 год» пад тым жа загалоўкам, але ўжо без подпісу.

Што дае безварунковую падставу сцвярджаць, што гэты артыкул належыць Вацлаву Ластоўскаму? Сведчанне Антона Луцкевіча, сябра і паплечніка Ластоўскага. У сваім артыкуле «Дыктатар Літвы», прысвечаным таксама Кастусю Каліноўскаму і надрукаваным у віленскім часопісе «Przegląd Wileński» (1924, № 6), А. Луцкевіч піша, што лісты К. Каліноўскага з-пад шыбеніцы былі надрукаваны па рукапісу В. Ластоўскім у «Беларускім календары «Сваяк» на 1919 год» (с. 4). (Луцкевіч мае на ўвазе артыкул «Памяці Справядлівага», у тэксце якога былі змешчаны вышэйпамянёныя лісты). А паколькі артыкул В. Ластоўскага ў «Беларускім календары», як ужо адзначалася, быў перадрукам артыкула з газеты «Гоман», супрацоўнікам якой разам з братамі Луцкевічамі быў Вацлаў Ластоўскі, то ёсць усе падставы сцвярджаць, што аўтарам першай публікацыі пра Кастуся Каліноўскага на беларускай мове з'яўляецца менавіта ён.

А цяпер коратка закранём змест артыкула. Расказваючы пра жыццёвы шлях К. Каліноўскага, аўтар найбольшае месца адводзіць аналізу яго рэвалюцыйнай дзейнасці напярэдадні і ў час паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве. Ён падкрэслівае, што Каліноўскі «стараўся... перш - наперш для сваёй справы з'яднаць сялян», а таксама «шляхецкую моладзь». Даследчык піша, што перад паўстаннем «з яго (Каліноўскага.—**В. Ш.**) думкі і пад яго кірункам рабіліся пераклады тагачасных рэвалюцыйных песень на беларускую мову, закладаліся пачатковыя школкі з навучаннем па-беларуску, складаліся літаратурныя кружкі моладзёжы, каторыя апрацоўвалі да друку папулярныя беларускія кніжкі».

Характарызуючы К. Каліноўскага як барацьбіта «за беларускае адраджэньне», «за правы беларускага народа», даследчык падкрэслівае, што ў сваёй праграме ён «дамагаўся скасавання станавых (г. зн. саслоўных. — **В. Ш.**) прывілеяў, ... шырокіх культурна-нацыянальных правоў для Беларускага (так у тэксце.—**В. Ш.**) і Літоўскага народу».

Адсюль можна зрабіць вывад, што культурна-асветніцкая дзейнасць К. Каліноўскага напярэдадні паўстання ў артыкуле адлюстравана больш поўна, чым яго палітычныя погляды. На гэтым, як можна меркаваць, адбілася складаная палітычная сітуацыя на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў часе першай сусветнай вайны (нагадаем, што артыкул пісаўся ў канцы 1915 — пачатку 1916 года), слабасць тых палітычных сіл, настроі і думкі якіх выказваў Вацлаў Ластоўскі.

Тым не менш, можна сказаць, што артыкул напісаны з добрым веданнем справы, на ўзроўні стану даследаванняў у гэтай галіне на пачатку XX стагоддзя. Як ужо было сказана, у публікацыі змешчаны таксама два «Лісты з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага. Прычым іх тэксты крыху адрозніваюцца ад тых, што былі выдрукаваны ў выйшаўшай у Парыжы працы А. Гілера «Гісторыя паўстання польскага народа ў 1861—1864 гадах» і да нашых дзён лічацца першакрыніцай, паколькі арыгіналы пісем Каліноўскага пакуль не знойдзены. Напрыклад, добра вядомы нам адзіны верш Каліноўскага ў публікацыі В. Ластоўкага пачынаецца так: «Беларуска зямелька, галубка мая...» У Гілера, для параўнання, гэты радок гучыць: «Марыська чорнобрева, галубка мая...» Яшчэ адзін прыклад. У Гілера апошні (па парадку размяшчэння) ліст К. Каліноўскага пачынаецца так: «Браты мае, мужыкі радныя!» У Ластоўскага ж па-іншаму: «Беларусы, браты мае родныя!» і г. д. Адсюль можна зрабіць вывад, што ў залежнасці ад часу, умоў, акалічнасцей духоўная спадчына К. Каліноўскага набывала новае палітычнае і маральнае гучанне, служыла нацыянальнаму аб'яднанню, адыгрывала ролю духоўнай зброі людзей.

З артыкула В. Ластоўскага мы ўпершыню даведваемся і пра тое, што «Лісты з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага былі вядомы даследчыку з нейкіх рукапісных копій, якія, як пісаў А. Луцкевіч, «разыходзіліся ў вялікай колькасці экземпляраў». Як бачым, Кастусь Каліноўскі заўсёды актуальны!

**Знаёмячыся з працай пра К. Каліноўскага, мы даведваемся, на жаль, і пра страты, якія панесла каліноўсказнаўства. У прыватнасці, У. Талочка ў сваім артыкуле, прысвечаным К. Каліноўскаму, пісаў, што бачыў у В. Ластоўскага паперы, якія адносіліся да часу навучання К. Каліноўскага ў Маскоўскім універсітэце («Беларускае жыццё», 1919, № 10, с. 2). Дзе яны цяпер, гэтыя паперы? Пакуль што нікому з даследчыкаў не ўдалося знайсці якія-небудзь звесткі пра час побыту беларускага рэвалюцыянера ў Маскве.**

Разам з тым, у артыкуле В. Ластоўскага можна знайсці і шэраг недакладнасцей, якія звязаны з недастатковай распрацаванасцю ў той час гэтай тэмы. Напрыклад, як і іншыя даследчыкі, В. Ластоўскі памылкова паведамляў, што «Мужыцкая Праўда» выходзіла ў 1863 годзе (у сапраўднасці ў 1862—1863 гадах), што выйшла шэсць нумароў гэтай газеты (у сапраўднасці — сем), што Каліноўскі напісаў з турмы «дзве адозвы да беларускага народу» (г. зн. два «Лісты з-пад шыбеніцы» — у сапраўднасці — тры). Заўважым, што не толькі В. Ластоўскаму, але і іншым беларускім аўтарам, пісаўшым пасля яго пра Каліноўскага ў пачатку 20-х гадоў, была невядома публікацыя «Лістоў з-пад шыбеніцы» А. Гілера (Парыж, 1867). (Здаецца, першым з беларусаў спаслаўся на яе ў 1924 годзе І. Цвікевіч.)

**Але не будзем занадта суровымі суддзямі працы, якая створана амаль 75 гадоў назад, у складаных умовах першай сусветнай вайны. Яна напісана на тым узроўні, на якім дазвалялі гэта зрабіць даследаванні ў гэтай галіне на пачатку XX стагоддзя. Галоўная яе якасць у іншым. Кожная галіна ведаў, як рака з крынічкі, бярэ свой пачатак ад якога-небудзь факта ці падзеі. Такой падзеяй у беларускім каліноўсказнаўстве з'яўляецца артыкул у газеце «Гоман» «Памяці Справядлівага». Так лічылі ўсе, хто пісаў пра К. Каліноўскага пасля Вацлава Ластоўскага, хто жыў і працаваў побач з ім — Уладзіслаў Талочка, Іван Цвікевіч, Антон Луцкевіч, Усевалад Ігнатоўскі. На публікацыю спасылаўся і акадэмік Я. Ф. Карскі.**

На жаль, наступнае пакаленне даследчыкаў змусілі забыць пра гэта, залічыўшы Вацлава Ластоўскага да нацыянал-дэмакратаў, а яго працы схавалі ў спецхраны бібліятэк.

За гэта прыйшлося дорага заплаціць. Ацэнка рэвалюцыйнай дзейнасці і светапогляду Кастуся Каліноўскага ў 30-я гады адкацілася на пазіцыі XIX стагоддзя. Сведчаннем чаго з'яўляецца артыкул «Калиновский», надрукаваны ў першым выданні «Большой Советской Энциклопедии» (М., 1937, т. 30, с. 737), дзе з сорамам і здзіўленнем і сёння яшчэ можна прачытаць, што Каліноўскі гэта **«польский нац.-** (падкрэслена мною.—**В. Ш.**). **революционный деятель»**.

**Толькі пасля вайны зноў пачалося даследаванне гэтай тэмы, вучоныя зноў пайшлі ў напрамку, пракладзеным В. Ластоўскім.**

**Але калі сёння мы ведаем пра Кастуся Каліноўскага больш, чым 75 год назад, то толькі таму, што калісьці нехта першым распачаў працу ў гэтай галіне, напісаў пра Каліноўскага першы артыкул на роднай мове, першым паглядзеў на яго як на вялікую нацыянальную з'яву.**

**В. ШАЛЬКЕВІЧ.**




**З 15 ПА 21 КАСТРЫЧНІКА**

**15 кастрычніка. 21.50**

**«АДНА НОЧ»**

**Прэм'ера мастацкага фільма БТ.**

**Аўтар сцэнарыя і рэжысёр У. Колас, аператар Л. Слобін. У галоўных ролях Я. Шыпіла і А. Бабкаўскас.**

**Апавяданне В. Быкава, паводле якога знята карціна, вяртае нас да падзей мінулай вайны...**

**16 кастрычніка. 21.40**

**ЛІРА**

**Мастацка-публіцыстычная праграма раскажа пра Браслаў і Браслаўшчыну, традыцыі, праблемы і клопаты мясцовых жыхароў.**

**У перадачы бяруць удзел ксёндз Ф. Апячонак, эколаг В. Раманаў, супрацоўнікі краязнаўчага музея Браслава, музыкі.**

**17 кастрычніка. 21.10**

**ТЭАТР І ЧАС**

**Акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы — 70 год.**

**Гаворку павядуць дырэктар тэатра І. Вашкевіч, галоўны рэжысёр В. Раеўскі, рэжысёр В. Пінігін, артысты В. Манаеў і Г. Давыдзька. Гледачы ўбачаць урыўкі са спектакляў розных гадоў.**

**18 кастрычніка. 21.00**

**НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БССР**

**«Бацькаў дар». Купальскія песні. Выконвае Акадэмічны хор Дзяржтэлерадыё БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР В. Роўды.**

**20 кастрычніка. 10.10**

**ВЕТАХ**

**Народныя рамёствы.**

**Расказ пра майстроў Жлобінскай фабрыкі народных промыслаў.**

**20 кастрычніка. 11.30**

**НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БССР**

**У. Солтан. «Дзікае паляванне караля Стаха». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР.**

**Дырыжор-пастаноўшчык А. Анісімаў, рэжысёр-пастаноўшчык В. Цюпа, мастак Э. Гейдэбрэхт. Галоўныя партыі выконваюць Н. Кастэнка, І. Шупеніч, В. Скорабагатаў.**

**21 кастрычніка. 11.15**

**«І ЧАС НЕ ЗНІШЧЫЦЬ ГОЛАС МОЙ...»**

**Перадача прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння кабардзінскага паэта Алі Шагенцукава, які загінуў у 1941 годзе ў Беларусі.**

**21 кастрычніка. 12.55**

**А. ТАЛСТОЙ.**

**«СМЕРЦЬ ІААНА ГРОЗНАГА»**

**Спектакль Калінінградскага абласнога драмтэатра.**

**Рэжысёр-пастаноўшчык заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР В. Бухарын. У ролі цара Іаана Васільевіча — заслужаны артыст РСФСР Т. Матэвулін.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 ~~5 6~~ 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 ~~12~~

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.